## ЗМЕСТ

# 1. ПАРУШЭННІ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯ Ў БЕЛАРУСІ У 2010 г. (агляд)

## 1.1. Развіццё сітуацыі

2010 год для Беларусі быў годам правядзення выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў і – што значна важней – выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (яны павінны былі адбыцца ў лютым 2011 г., аднак былі праведзены двума месяцамі раней).

У перыяд падрыхтоўкі і правядзення значных палітычных кампаній сітуацыя са свабодай выказвання, як і з іншымі грамадзянска-палітычнымі правамі і свабодамі, у краіне звычайна пагаршаецца. У 2010 г. падзеі развіваліся па іншым сцэнары.

У першай палове года ціск на СМІ і журналістаў узмацніўся. Выкарыстоўваючы ў якасці нагоды расследаванне крымінальнай справы па факце паклёпу на генарала КДБ Івана Каржа, спецслужбы правяліператрусы ў журналістак Святланы Калінкінай, Марыны Коктыш, Наталлі Радзінай, Ірыны Халіп, з іх кватэр, а таксама з рэдакцыі газеты "Народная воля" і офіса "Хартыі-97" было забрана абсталяванне, якое на працягу года не вярнулі (пры гэтым журналісткі фігуруюць у справе ў якасці сведак). На адрас вядучых недзяржаўных газет «Народная воля» і «Наша Ніва», а таксама адной з самых тыражных газет «Комсомольская правда в Белоруссии» Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанні. На працягу 2010 г. «Наша Ніва» і «Народная воля» атрымалі адпаведна 3 і 4 папярэджанні ад Міністэрства інфармацыі (пры тым, што для закрыцця ў судовым парадку дастаткова двух (а ў шэрагу выпадкаў – і аднаго!) папярэджанняў, вынесеных з любой, нават самай нязначнай нагоды, незалежна ад цяжкасці дапушчанага СМІ парушэння).

На пачатку восені трагічна загінуў журналіст і грамадскі актывіст Алег Бябенін. Яго калегі, якія выказалі сумнеў у афіцыйнай версіі самазабойства, атрымалі ад нявысветленых асобаў пагрозы на свой адрас.

Ціск на СМІ крыху зменшыўся ў другой палове 2010 г. Відавочна, гэта было выклікана імкненнем уладаў дамагчыся станоўчай ацэнкі правядзення прэзідэнцкіх выбараў з боку еўрапейскіх структур.

Аднак спадзевы на гэта былі перакрэслены непрапарцыянальным прымяненнем сілы ў дзень выбараў 19 снежня 2010 г. і рэпрэсіямі, якія закранулі ў тым ліку і журналістаў.

## 1.2. Стан СМІ ў Беларусі

Па звестках Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь *(http://mininform.gov.by/rus/smi/pechat/),* на 1 студзеня 2011 г. у краіне налічвалася 1344 зарэгістраваных друкаваных СМІ, з якіх, як часта падкрэсліваюць афіцыйныя асобы, дзяржаўнымі з'яўляюцца толькі 397. Аднак абсалютная большасць недзяржаўных СМІ – гэта выданні забаўляльныя, рэкламныя і г.д. Зарэгістраваных недзяржаўных СМІ грамадска-палітычнай накіраванасці, паводле падлікаў ГА "Беларуская асацыяцыя журалістаў", у краіне каля 30-і. Амаль палова з іх яшчэ ў 2005 годзе, напярэдадні мінулых прэзідэнцкіх выбараў, была выкінута з дзяржаўных сістэм распаўсюду па падпісцы і ў сетках раздробнага гандлю і дагэтуль у іх не вернутая; абсалютна ўсе недзяржаўныя выданні адчуваюць цяжкасці з атрыманнем рэкламы і.г.д. З-за

эканамічнай, палітычнай і прававой дыскрымінацыі незалежных СМІ іх колькасць за апошнія 10 гадоў скарацілася ўвая. (Для параўнання: у 2003 годзе недзяржаўных СМІ грамадска-палітычнай накіраванасці налічвалася больш за 60.) У некаторых рэгіёнах краіны (напрыклад, Гомельскай вобласці) не засталося ніводнай зарэгістраванай незалежнай газзеты, а рэгістраваць новыя Мініфармацыі адмаўляецца з надуманых прычын.

У той жа час, дзяржаўныя СМІ атрымліваюць не толькі адміністратыўную падтрымку і рознага роду прэферэнцыі, але і бюджэтнае фінансаванне. У 2010 г. на гэтыя мэты толькі з рэспубліканскага бюджэту было выдаткавана 167 185 329,3 тыс. беларускіх рублёў (каля 40 млн. еўра). На 2011 г. сродкам масавай інфармацыі, якія датуюцца дзяржавай, выдаткоўваецца ўжо 214 728 238,9 бел. руб., альбо каля 54 млн. еўра. З іх больш за 43 млн. еўра накіроўваецца на фінансаванне тэлерадыёвяшчання.

Сітуацыя з тэлевізійнымі і радыёвяшчальнымі СМІ ў Беларусі яшчэ менш адпавядае дэмакратычным стандартам. З 237 зарэгістраваных тэле-радыёпраграм пераважная большасць (165) – дзяржаўныя. Астатнія 72 недзяржаўных электронных СМІ знаходзяцца пад поўным кантролем уладаў, як мясцовых, так і нацыянальных, дзякуючы сістэме ліцэнзавання вяшчання. У пачатку 2011 г. права ажыццяўляць вяшчанне была пазбаўлена папулярная FM-радыёстанцыя «Аўтарадыё», якая падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. паставіла ў эфір рэкламныя ролікі апазіцыйнх кандыдатаў Андрэя Саннікава і Уладзіміра Някляева (што беларускім заканадаўствам дазволена).

Самым свабодным сектарам інфармацыйнай прасторы Беларусі застаецца інтэрнэт. Сёння ў Беларусі каля 4 мільёнаў інтэрнэт-карыстальнікаў (колькасць рэгулярных карыстальнікаў Сусветнага Сеціва значна меншая, аднак яна таксама павялічваецца штогод). Беларускія ўлады адрэагавалі на павышэнне значнасці інтэрнэту спробамі ўзяць яго пад свой кантроль. 1 ліпеня ўступіў у сілу прэзідэнцкі ўказ №60 ад 01.02.2010 г. «Аб удасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт. На працягу года ў яго выкананне рознымі дзяржаўнымі органамі было прынята яшчэ 12 прававых актаў.

У адпаведнасці з імі

- усе беларускія інтэрнэт-рэсурсы, якія аказваюць паслугі беларускім грамадзянам, павінны перайсці ў даменную зону by і на беларускія серверы і прайсці рэгістрацыю,
- наведванне інтэрнэт-кафэ і іншых месцаў калектыўнага карыстання інтэрнэтам магчыма толькі па прад'яўленні дакумента, які пацвярджае асобу,
- ідэнтыфікуюцца і мадэмы індывідуальных карыстальнікаў, праз якія адбываецца падключэнне да інтэрнэту,
- правайдэры (як і аператары мабільнай сувязі) усталёўваюць сістэмы "СОРМ", даступныя КДБ і МУС,
- складаюцца "чорныя спісы" інтэрнэт-рэсурсаў, доступ да якіх у абавязковым парадку абмяжоўваецца для дзяржаўных арганізацый (у краіне з пераважна дзяржаўнай формай уласнасці), установаў адукацыі і культуры (бібліятэк, школ, вну і г.д.), а для грамадзян – па іх заяве.

Цяпер падрыхтаваны праект закона, які ўводзіць адміністратыўную і крымінальную адказнасць за парушэнне гэтых патрабаванняў.

У дзень прэзідэнцкіх выбараў, 19 снежня 2010 г., большасць незалежных інтэрнэт-рэсурсаў, якія асвятлялі іх ход, былі заблакаваныя. На тэрыторыі Беларусі сталі недаступнымі сайты charter97.org («Хартыя-97»), belaruspartisan.org («Белорусский партизан»), gazetaby.com («Салідарнасць»), ucpb.org (сайт прыхільнікаў

Аб’яднанай грамадзянскай партыі), udf.by, electroname.com, bchd.info (Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя), spring96.org (Праваабарончы цэнтр «Вясна»), www.euroradio.fm («Еўрапейскае радыё для Беларусі»), www.svaboda.org (Радыё «Свабода»), zapraudu.info (сайт кампаніі «Гавары праўду») і інш. У карыстальнікаў узніклі праблемы з доступам да Facebook і LiveJournal, Google**.** Доступ да сайтаў праз шэраг вядомы ананімайзераў таксама быў немагчымы, паколькі і яны блакаваліся.

## 1.3. Парушэнні правоў журналістаў і СМІ ў перыяд выбараў

Прэзідэнцкія выбары суправаджаліся масавымі грубымі парушэннямі правоў журналістаў і СМІ.

Яшчэ да закрыцця выбарчых участкаў пацярпелі некалькі журналістаў беларускіх і замежных СМІ. Гэта адбылося падчас нападу прадстаўнікоў сілавых структур на кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева і яго прыхільнікаў з мэтай забраць у іх гукаўзмацняльную апаратуру. Прысутныя пры гэтым журналісты былі збітыя, у іх пашкодзілі і адабралі фота- і відэакамеры, не звяртаючы ўвагі на журналісцкія пасведчанні.

Затрыманні і збіццё журналістаў працягваліся пасля акцыі пратэсту ўвечары 19 снежня. Па інфармацыі ГА “БАЖ”, у гэты і наступныя дні як мінінмум 27 журналістаў былі затрыманыя, 21 пацярпеў фізічна ад рук сілавікоў. 13 журналістаў былі асуджаныя на адміністратыўны арышт на тэрмін ад 10 да 15 сутак.

Сямёра журналістаў і сябраў БАЖ абвінавачваюцца ў крымінальным злачынстве – арганізацыі масавых беспарадкаў і ўдзеле ў іх (арт. 293 КК “Масавыя беспарадкі”). Адзін з іх – Аляксандр Атрошчанкаў, прэс-сакратар кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, супрацоўнік сайта “Хартыя-97” і літоўскага парталу DELFI, на пачатку сакавіка быў асуджаны на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яшчэ шасцёра - журналістка “Новой газеты” (Расія) Ірына Халіп, рэдактарка сайта “Хартыя-97” Наталля Радзіна, публіцыст Аляксандр Фядута, рэдактар газеты “Товарищ” і сябра праўлення ГА “БАЖ” Сяргей Вазняк, сябра Рады ГА “БАЖ” Павел Севярынец, а таксама Дзмітрый Бандарэнка – яшчэ чакаюць суда. Ім пагражае пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі. А. Фядута, П. Севярынец і Д. Бандарэнка ўтрымліваюцца пад вартай, для І. Халіп у канцы студзеня 2011 г. гэтая мера стрымання была зменена на хатні арышт з вельм жорсткімі абмежаваннямі, Н. Радзіна і С. Вазняк былі адпушчаныя пад падпіску аб нявыездзе.

Хваля рэпрэсій супраць журналістаў і СМІ працягвалася і пасля завяршэння выбараў. Журналістаў (як і актывістаў грамадзянскай супольнасці і праваабаронцаў) выклікалі на допыты ў КДБ, у офісах СМІ і кватэрах журналістаў праводзяцца вобшукі.

## 1.4. Высновы

Сітуацыя ў сферы СМІ ў Беларусі па-ранейшаму не адпавядае дэмакратычным стандартам. Больш за тое, заканадаўчае рэгуляванне ў сферы свабоды выказвання меркаванняў стала больш жорсткім, гэтак жа як і практыка прымянення заканадаўства аб СМІ.

Найбольш значнымі падзеямі ў медыясферы ў 2010 г. ў Беларусі былі:

- Прыняцце прававых актаў, накіраваных на рэгуляванне дзейнасці ў нацыянальным сегменце сеткі Інтэрнэт;
- Масавыя грубыя парушэнні правоў журналістаў і СМІ ў дзень выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ў наступныя месяцы.

## 2. ЗМЯНЕННІ ЗАКАНАДАЎСТВА Ў СФЕРЫ СМІ

**1 лютага 2010 г.** Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў указ № 60 **“Аб захадах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт”.**

У адпаведнасці з ім:

- усе беларускія інтэрнэт-рэсурсы, якія аказваюць паслугі беларускім грамадзянам, павінны перайсці ў даменную зону by і на беларускія серверы і прайсці перарэгістрацыю;
- наведванне інтэрнэт-кафэ і іншых месцаў калектыўнага карыстання інтэрнэтам магчыма толькі па прад’яўленні дакумента, які пацвярджае асобу;
- ідэнтыфікуюцца і мадэмы індывідуальных карыстальнікаў, праз якія адбываецца падключэнне да інтэрнэту;
- правайдэры (як і аператары мабільнай сувязі) усталёўваюць “СОРМ” (САВМ - **Сістэма** тэхнічных сродкаў для забеспячэння функцый **аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў**), даступныя КДБ і МУС;
- складаюцца спісы інтэрнэт-рэсурсаў, доступ да якіх у абавязковым парадку абмяжоўваецца для дзяржаўных устаноў, устаноў адукацыі і культуры (бібліятэк, школ, вну і г.д.), а для грамадзян – па іх заяве.

Цягам года ў развіццё ўказу № 60 рознымі дзяржаўнымі органамі прынята 12 нарматыўных актаў.

**19 сакавіка** Міністэрства сувязі і інфарматызацыі прыняло пастанову № 4 **“Аб дэлегаванні асобных паўнамоцтваў Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь”.**

Міністэрства ўпаўнаважыла рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства па нагляду за электрасувяззю “БелГІЭ” ажыццяўляць, сярод іншага, дзяржаўную рэгістрацыю інфармацыйных сетак, сістэм і рэсурсаў нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт, размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**19 красавіка** Савет Міністраў прыняў пастанову № 644 **“Аб некаторых пытаннях удасканальвання выкарыстання нацыянальнага сегменту глабальнай камп’ютарнай сеткі інтэрнэт”.**

Пастановай зацверджана Палажэнне аб парадку дзяржаўнай рэгістрацыі інфармацыйных сетак, сістэм і рэсурсаў нацыянальнага сегменту глабальнай камп’ютарнай сеткі інтэрнэт, размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, і вызначаны тэрмін іх рэгістрацыі – да 1 ліпеня 2010 г.

**29 красавіка** Савет Міністраў зацвердзіў пастанову № 645 **“Аб некаторых пытаннях інтэрнэт-сайтаў дзяржаўных органаў і арганізацый і прызнанні страціўшай сілу пастановы Савета Міністраў ад 11 лютага 2006 г. № 192”.**

Пастановай зацверджана Палажэнне аб парадку функцыянавання інтэрнэт-сайтаў дзяржаўных органаў і арганізацый і прызнана страціўшай сілу ранейшая пастанова “Аб зацвярджэнні Палажэння аб суправаджэнні інтэрнет-сайтаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, іншых дзяржаўных арганізацый, падпарадкаваных Ураду Рэспублікі Беларусь”.

**29 красавіка** пастановай № 646 Савет Міністраў унёс **змяненні ў Правілы аказання паслуг электрасувязі.**

Правілы дапоўнены, у прыватнасці, палажэннямі аб ідэнтыфікацыі абаненцкіх прылад індывідуальных карыстальнікаў інтэрнэту і фіксаванні наведвання імі інтэрнэт-рэсурсаў, а таксама ўказаннем, што ў пунктах калектыўнага карыстання інтэрнэтам паслугі аказваюцца пасля ідэнтыфікацыі карыстальніка шляхам уліку яго персанальных дадзеных (імя, імя па бацьку, прозвішча, від і нумар дакумента, які дазваляе яго ідэнтыфікаваць, назва органа, які выдаў дакумент).

**6 траўня** Рэчыцкі раённы выканаўчы камітэт рашэннем № 1245 зацвердзіў **Палажэнне аб парадку акрэдытацыі прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі пры Рэчыцкім раённым выканаўчым камітэце.**

У адпаведнасці з Палажэннем, права на акрэдытацыю пры Рэчыцкім райвыканкаме маюць журналісты сродкаў масавай інфармацыі, зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Для акрэдытацыі карэспандэнта рэдактар СМІ павінен накіраваць у выканкам адпаведны зварот з прыкладаннем копіі пасведчання аб рэгістрацыі СМІ. Разглядае зварот аддзел ідэалагічнай работы выканкама.

Акрэдытацыя выдаецца тэрмінам на 1 каляндарны год. Сярод падставаў для адмовы ў акрэдытацыі – папярэджанне Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, атрыманае рэдакцыяй СМІ цягам 12 месяцаў, што папярэднічаюць даце напісання звароту аб акрэдытацыі.

У выпадку парушэння патрабаванняў Палажэння Рэчыцкі райвыканкам пакідае за сабой права аб'явіць журналісту папярэджанне, а пры паўторным – пазбавіць акрэдытацыі на тэрмін 6 месяцаў усіх акрэдытаваных журналістаў гэтага СМІ. Такая ж мера прадугледжана ў выпадку распаўсюду сродкам масавай інфармацыі альбо журналістам звестак, якія не адпавядаюць рэчаіснасці, наносяць урон гонару, годнасці альбо дзелавой рэпутацыі кіраўнікоў і (альбо) службовых асобаў Рэчыцкага раённага выканаўчага камітэту.

**3 чэрвеня** пастановай № 855 Савет Міністраў зацвердзіў **пералік друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, рэдакцыям якіх выдзяляюцца субсідыі з рэспубліканскага бюджэту.** У пералік СМІ, якія субсідуюцца з бюджэту на пазаконкурснай аснове, увайшлі 24 выданні, сярод якіх і самая шматнакладная газета “Советская Белоруссия”, заснаваная Адміністрацыяй Прэзідэнта.

**29 чэрвеня** Аператыўна- аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (ААЦ) і Міністэрства сувязі і інфарматызацыі сумеснай пастановай № 4/11 зацвердзілі **Палажэнне аб парадку абмежавання доступу карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг да інфармацыі, забароненай да распаўсюду ў адпаведнасці з заканадаўчымі актамі.**

Палажэнне вызначыла парадак абмежавання доступу карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг да інфармацыі, змест якой накіраваны на:

- ажыццяўленне экстрэмісцкай дзейнасці;
- незаконнае абарачэнне зброі, боезапасаў, выбуховых прылад, выбуховых, радыёактыўных, атрутных рэчываў, моцнадзеючых, таксічных рэчываў, наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і прэкурсораў;
- садзеянне незаконнай міграцыі і гандлю людзьмі;
- распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў;
- прапаганду гвалту, жорсткасці і іншых дзеянняў, забароненых заканадаўствам.

Доступ да такой інфармацыі дзяржаўным органам і арганізацыям, а таксама ўстановам адукацыі, культуры абмяжоўваецца ў абавязковым парадку, іншым

карыстальнікам інтэрнэт-паслуг – на іх запыт. Не абмяжоўваецца доступ да інфармацыі, забароненай да распаўсюду, аператыўна-вышуковым органам, органам пракуратуры і папярэдняга расследавання, Камітэта дзяржаўнага кантролю, падатковым органам і судам, а таксама іншым органам і арганізацыям, якія вызначае ААЦ.

Доступ да інфармацыі, забароненай да распаўсюду, абмяжоўваецца на падставе спісаў інтэрнэт-рэсурсаў абмежаванага доступу, які фарміруецца "БелГІЭ" на падставе рашэнняў кіраўнікоў Камітэта дзржаўнага кантролю, Генеральнай пракуратуры, ААЦ, рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання. Спіс абмежаванага доступу, у які ўключаны рэсурсы нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт, размяшчаюцца на сайце "БелГІЭ". Спіс іншых інтэрнэт-рэсурсаў абмежаванага доступу для карыстальніка закрыты, і іх уладальнікаў пра ўключэнне інтэрнэт-рэсурсу ў такі спіс не інфармуюць.

**29 чэрвеня** Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь загадам № 52 зацвердзіў **Палажэнне аб парадку вызначэння дзяржаўных органаў і арганізацый, якім пастаўшчыкі інтэрнэт-паслуг не абмяжоўваюць доступу да інфармацыі, якая размяшчаецца і распаўсюджваецца ў сетцы інтэрнэт.**

Палажэнне вызначае парадак доступу дзяржаўных органаў, арганізацый адукацыі і культуры да інфармацыі, распаўсюд якой у сетцы інтэрнэт абмяжоўваецца прэзідэнцкім указам № 60 ад 1 лютага 2010 г. "Аб захадах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт". Для атрымання доступу да такой інфармацыі дзяржаўны орган альбо арганізацыя накіроўвае ў ААЦ ліст, падпісаны кіраўніком, з указаннем прававых абгрунтаванняў і прычын, паводле якіх неабходны доступ да такой інфармацыі. ААЦ прымае рашэнне ў 10-дзённы тэрмін. Рашэнне можа быць абскарджана ў судовым парадку.

**19 ліпеня** прынята новая рэдакцыя закона **"Аб дзяржаўных сакрэтах".** Як указана ў прэамбуле, закон "вызначае прававыя і арганізацыйныя асновы аднясення звестак да дзяржаўных сакрэтаў, абароны дзяржаўных сакрэтаў, ажыццяўлення іншай дзейнасці ў галіне дзяржаўных сакрэтаў з мэтай забеспячэння нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь". Новая рэдакцыя закона набыла сілу праз 6 месяцаў пасля яго афіцыйнага апублікавання.

**2 жніўня** Міністэрства інфармацыі прыняло пастанову № 8 **"Аб некаторых захадах па рэалізацыі Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 кастрычніка 2009 г. № 510".**

На падставе прэзідэнцкага ўказа № 510 "Аб удасканаленні кантрольнай (нагляднай) дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь" Міністэрства інфармацыі ўстанавіла, што асноўным метадам кантролю ў межах кампетэнцыі міністэрства (у тым ліку кантролю за выкананнем СМІ заканадаўства) з'яўляецца правядзенне праверак, і вызначыла спосабы іх правядзення. Сярод іх:

- наведванне і агляд службовых, вытворчых і іншых памяшканняў (аб'ектаў) правяраемага суб'екта;
- атрыманне доступу ў межах сваёй кампетэнцыі да баз і банкаў дадзеных правяраемага суб'екта з улікам патрабавання заканадаўства аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі;
- выклік у міністэрства прадстаўнікоў правяраемага суб'екта, запатрабаванне ад яго пісьмовых і вусных тлумачэнняў;
- атрыманне ад правяраемага суб'екта неабходных для праверкі дакументаў (іх копій), у тым ліку ў электронным выглядзе, іншай інфармацыі, датычнай яго дзейнасці і маёмасці, і інш.

**9 жніўня** Савет Міністраў зацвердзіў пастановай № 1174 **Стратэгію развіцця інфармацыйнага грамадства ў Рэспубліцы Беларусь на перыяд да 2015 года** і **План першачарговых захадаў па рэалізацыі Стратэгіі развіцця інфармацыйнага грамадства ў Рэспубліцы Беларусь на 2010 год.**

Чаканымі вынікамі ад рэалізацыі Стратэгіі да 2015 года называюцца:

- павелічэнне колькасці абанентаў і карыстальнікаў стацыянарнага шырокапалоснага доступу на 100 жыхароў да 38 (цяпер 18,3);
- павелічэнне колькасці абанентаў і карыстальнікаў мабільнага шырокапалоснага доступу на 100 жыхароў да 53 (цяпер 30,5);
- давядзенне да 100 працэнтаў колькасці навучальных установаў, якія маюць доступ у інтэрнэт, і гэтак далей.

У плане перашачарговых захадаў на 2010 г. значацца распрацоўка канцэпцый, дзяржаўнай і рэгіянальных праграм і стварэнне міжведамаснага каардынацыйнага савета.

**30 лістапада** пастановай № 13 Міністэрства інфармацыі зацвердзіла **Інструкцыю аб парадку ўтварэння, дзейнасці кваліфікацыйнай камісіі і правядзення кваліфікацыйнага экзамена для ажыццяўлення выдавецкай дзейнасці і прызнанні страціўшымі сілу некаторых нарматыўных прававых актаў.**

Персанальны склад кваліфікацыйнай камісіі зацявярджаецца загадам Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Старшынёй кваліфікацыйнай камісіі з'яўляецца намеснік міністра.

**30 снежня** Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў указ № 712 **"Аб удасканаленні дзяржаўнай сістэмы прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь".**

Указам зацверджана палажэнне аб дзейнасці па распаўсюдзе (прадастаўленні) прававой інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Замест ліцэнзавання дзейнасці па распаўсюдзе прававой інфармацыі ўказ абавязвае арганізацыі і індывідуальных прадпрымальнікаў заключаць з Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі дамову аб прадастаўленні прававой інфармацыі для яе далейшага распаўсюду (прадастаўлення). Дзейнасць па распаўсюдзе прававой інфармацыі, якая ажыццяўляецца без заключэння дамовы, аб'яўляецца незаконнай. Пад прававой інфармацыяй маюцца на ўвазе тэксты і абавязковыя рэквізіты прававых актаў, якія складаюць заканадаўства Рэспублікі Беларусь, у тым міжнародныя дамовы.

# 3. ХРОНІКА ПАРУШЭННЯЎ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯ Ў БЕЛАРУСІ Ў 2010 г.

## 3.1. Асноўныя парушэнні правоў журналістаў і СМІ ў першай палове 2010 г.

Сітуацыя ў галіне СМІ ў Беларусі ў першай палове 2010 г. характарызавалася паступовым нагнятаннем напружанасці. Самымі трывожнымі падзеямі гэтага перыяду былі:

- ператрусы ў кватэрах журналістаў і офісах рэдакцый, а таксама актывістаў грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду”;
- прынsocце прэзідэнцкага ўказу аб рэгуляванні беларускага сегменту сеткі інтэрнэт;
- узмацненне ціску на журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ;
- пакіданне ў сіле папярэджання ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, накіраванага на абмежаванне магчымасці займацца журналісцкай дзейнасцю ў краіне і зніжэнне прававой абароненасці журналістаў;
- вынясенне папярэджанняў на адрас рэдакцый уплывовых недзяржаўных газет.

У лютым-сакавіку 2010 г. супрацоўнікі міліцыі правялі ператрусы на працоўных месцах і ў кватэрах намеснікаў рэдактара газеты “Народная воля” Марыны Коктыш і Святланы Калінкінай, у офісе сайта “Хартыя-97” і ў кватэры, дзе жыве рэдактарка сайта Наталля Радзіна, а таксама ў кватэры журналісткі Ірыны Халіп. Ва ўсіх выпадках міліцыянты забіралі носьбіты інфармацыі – камп’ютары, дыскі, USB-назапашвальнікі, карты памяці фотаапаратаў. Ператрусы праводзілі міліцыянты ў цывільным, некаторыя з іх былі ў масках. Пранікненне ў офіс сайта “Хартыі-97” адбывалася з выкарыстаннем сілы, рэдактара сайта Н. Радзіну адзін з міліцыянтаў ударыў у твар. Крымінальную справу па скарзе Н. Радзінай пракуратура ўзбуджаць адмовілася.

Ператрусы праводзіліся ў сувязі з расследаваннем крымінальнай справы аб паклёпе ў дачыненні да былога начальніка УКДБ па Гомельскай вобласці Івана Каржа (арт. 188 КК). Журналістак М. Коктыш, І. Халіп, С. Калінкіну і Н. Радзіну неаднаразова выклікалі на допыты. Іх камп’ютары былі адпраўлены на экспертызу, якая не дала вынікаў, якія б задавальнялі следства. Пасля гэтага прафесійнае абсталяванне не вярнулі журналісткам, а накіравалі на паўторную экспертызу. Ужо потым прафесійнае абсталяванне, адабранае ў журналістак падчас вобшукаў у рэдакцыях і кватэрах, было далучана да крымінальнай справы ў якасці доказаў. Следчы даў даручэнне экспертам азнаёміцца з прыватнай перапіскай журналістак, аднак тыя не змаглі ўскрыць іх паштовыя скрыні.

Тое, што адбылося, нагадала падзеі сакавіка 2008 г., калі ператрусы – таксама з нагоды расследвання крымінальнай справы аб паклёпе і абразе, але ўжо Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, - прайшлі ў кватэрах журналістаў па ўсёй Беларусі. 22 сакавіка 2010 г. ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” заявіла, што разглядае ператрусы і допыты калег як частку спецаперацыі супраць незалежнай журналістыкі ў Беларусі, і патрабуе тэрміновага вяртання адабранай у журналістаў уласнасці, неабходнай для ажыццяўлення іх прафесійнай дзейнасці.

Аднак сітуацыя працягвала пагаршацца. Пры канцы сакавіка вядомы беларускі журналіст Павел Шарамет, які працуе ў Расіі, быў пазбаўлены беларускага грамадзянства. П. Шарамет асвятляў на сайце **www.belaruspartizan.org** супрацьстаянне супрацоўнікаў міліцыі і КДБ, якое паслужыла прычынай узбуджэння крымінальнай справы па заяве генерала І. Каржа і наступнага пераследу журналістаў і СМІ, што асвятлялі гэтую сітуацыю. А 29 красавіка стала вядома, што ў сувязі з публікацыямі на "Хартыі-97" заведзена яшчэ адна крымінальная справа. Падставай для гэтага сталі каментары, пакінутыя наведвальнікамі сайта пад адной з публікацый.

Улады працягвалі планамерна пераследаваць журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ (у першую чаргу – з тэлеканалам БЕЛСАТ). Апроч папярэджанняў, быў апрабаваны і сілавы варыянт ціску на журналістаў з боку пракуратуры і КДБ. 3-га лютага супрацоўнікі міліцыі паспрабавалі ўламацца ў мінскую кватэру, якую здымае прадстаўнік БЕЛСАТ Міхась Янчук. Журналісты, якія знаходзіліся ў гэтай кватэры, правялі ў міліцэйскай аблозе прыкладна паўтары гадзіны. Адзін з журналістаў, Іван Шульга, быў затрыманы пры выхадзе з кватэры і пасля асуджаны на 10 сутак адміністратыўнага арышту па звыклым у такіх выпадках абвінавачанні ў дробным хуліганстве. І. Шульгу спрабавалі абвінаваціць у супраціве супрацоўнікам міліцыі і нанясенні ім цялесных пашкоджанняў, што пацягнула б узбуджэнне крымінальнай справы, аднак гучны рэзананас гэтай справы прымусіў улады абмежавацца адміністратыўным арыштам журналіста. **http://baj.by/m-p-viewpub-tid-1-pid-7982.html**

Адначасова беларускія ўлады пацвердзілі свой намер узяць пад кантроль інтэрнэт-прастору. 1 лютага прэзідэнт падпісаў указ № 60 "Аб захадах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт". Сярод палажэнняў указу:

- рэгістрацыя інтэрнэт-рэсурсаў, якія аказваюць паслугі ў Беларусі;
- ідэнтыфікацыя карыстальнікаў у інтэрнет-кафэ, улік і захоўванне звестак пра наведаныя імі рэсурсы, а таксама ідэнтыфікацыя абаненцкіх прыстасаванняў пры аказанні інтэрнэт-паслуг;
- блакаванне доступу да "забароненай" інфармацыі ў дзяржаўных органах, установах адукацыі і культуры, інтэрнэт-кафэ і на запыт карыстальнікаў;

Указ стварыў шырокія магчымасці для абмежавання свабоды выказвання ў інтэрнэце.

З экспертызай аб рэгуляванні інтэрнэту, праведзенай Офісам прадстаўніка па свабодзе СМІ АБСЕ, можна азнаёміцца тут: **http://baj.by/m-p-viewpub-tid-1-pid-8140.html**

13 студзеня 2010 г. Міністэрства юстыцыі вынесла афіцыйнае папярэджанне ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў". 22 сакавіка Вярхоўны суд пакінуў яго ў сіле. Ён пацвердзіў забарону Мінюста на выкарыстанне сябрамі ГА "БАЖ" пасведчанняў са словам "Прэса" (гэтыя пасведчанні былі найбольш важнымі для журналістаў, якія не ўваходзяць у штат рэдакцый СМІ) і прызнаў незаконнасць дзейнасці Цэнтра прававой абароны СМІ пры ГА "БАЖ". Другое цягам году папярэджанне можа стаць падставай для закрыцця арганізацыі.

Яшчэ да судовага разгляду гэтай справы Парламенцкая Асамблея Савета Еўропы выказала занепакоенасць папярэджаннем Міністэрства юстыцыі. З меркавання АБСЕ, яно кідае выклік міжнародна прызнанай дзейнасці асацыяцыі па абароне інтарэсаў журналістаў і свабодзе слова. Улічваючы, што Беларусь з'яўляецца сябрам Венецыянскай камісіі, ПАСЕ звярнулася ў Венецыянскую камісію з просьбай даць заключэнне, ці ёсць папярэджанне Міністэрства юстыцыі парушэннем

агульнапрызнаных стандартаў у галіне правоў чалавека. **http://assembly.coe.int/Mainf.asp?link=/Documents/AdoptedText/ta10/eREC1897.htm**

Сваё заключэнне Венецыянская камісія вынесла 17-18 снежня 2010 г. (гл. дадатак) Яна прыйшла да высновы, што папярэджанне, якое БАЖ атрымала ад Мінюста, супярэчыць адразу некалькім артыкулам Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, а таксама Еўрапейскай канвенцыі правоў чалавека.

18 мая па ўсёй Беларусі ў офісах і кватэрах грамадзянскіх актывістаў кампаніі “Гавары праўду”, а таксама ў звязаных з кампаніяй журналістаў былі праведзеныператрусы, якія суправаджаліся выманнем абсталявання, грошай, дакументаў. Тры чалавекі, у тым ліку журналіст Сяргей Вазняк, былі арыштаваныя па надуманых падставах. Ім давялося правесці ў следчым ізалятары 3 сутак. У дачыненні да іх была ўзбуджана крымінальная справа, па якой яны праходзяць у якасці падазраваных.

Працягваўся пераслед распаўсюднікаў прэсы, прычым як незарэгістраванай, так і зарэгістраванай. У цэнтры ўвагі апынуўся Віцебск, дзе супрацоўнікі міліцыі шмат разоў затрымлівалі, а суды прыцягвалі да адказнасці распаўсюджвальнікаў газеты “Витебский курьер”, зарэгістраванай ў Расіі. Выданне было вымушана зарэгістравацца ў Расіі пасля таго, як пасведчанне аб рэгістрацыі газеты “Витебский курьер М” у Беларусі было анулявана. Аднавіць рэгістрацыю “Витебского курьера” альбо зарэгістраваць новую газету “Наш дом” беларускія ўлады адмаўляюцца, прычым “Наш дом” з адмовамі ў рэгістрацыі сутыкнуўся тройчы, на самых розных падставах (рэгістрацыя ўсіх СМІ ў Беларусі мае дазвольны характар). Таксама тройчы сутыкаліся з адмовамі ў рэгістрацыі заснавальнікі наваполацкай газеты “Химик. Два города” (Раней газета “Химик” спыніла выхад у друкаваным выглядзе і існуе зараз у інтэрнэт-варыянце).

Беларуская міліцыя пастаянна затрымлівала наклады надрукаваных у суседняй краіне выданняў і штрафавала іх распаўсюднікаў. Так, 7 чэрвеня на 700 тысяч рублёў (каля 230 долараў) быў аштрафаваны Алег Баршчэўскі, а 27 чэрвеня на тую ж суму – Крысціна Шацікава. Суддзі не прынялі да ўвагі беларуска-расійскага пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне друку, згодна з якім улады абедзвюх краін бралі на сябе абавязак не перашкаджаць распаўсюду на сваёй тэрыторыі друкаваных выданняў, зарэгістраваных у іншай краіне. Апроч затрыманняў і штрафаў журналістам і распаўсюднікам, улады зноў выкарыстоўвалі ў якасці інструмента ціску падатковую інспекцыю – пачалі пазапланавую праверку ў арганізацыях, якія маюць дачыненне да распаўсюду газет “Витебский курьер” і “Наш дом”.

Пры канцы мая – на пачатку чэрвеня Міністэрства інфармацыі вынесла адразу некалькі папярэджанняў на адрас зарэгістраваных незалежных СМІ (два папярэджанні з любой, нават самай нязначнай нагоды, паводле беларускага заканадаўства аб СМІ, з’яўляюцца падставай для звароту міністэрства ў суд з патрабаваннем закрыць газету). Прычым большасць з іх былі вынесены цягам двух дзён: 31 мая - 1 чэрвеня. Папярэджанні атрымалі “Народная воля” (гэта было ўжо трэцяе папярэджанне цягам года), “Салідарнасць” (газетная версія якой выходзіць раз на паўгода для захавання рэгістрацыі СМІ), “Новы час”. Эксперты звязалі вынясенне папярэджанняў з надыходзячымі выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

## 3.2 Асноўныя парушэнні правоў журналістаў і СМІ ў другой палове 2010 г.

У разглядаены перыяд найбольш значнымі фактамі ціску на СМІ і журналістаў былі:

- уступленне ў сілу прэзідэнцкага ўказу “Аб захадах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт;
- папярэджанні Міністэрства інфармацыі незалежным выданням;
- вымушанае прыпыненне выхаду газеты “Бобруйский курьер” (Магілёўская вобласць) з прычыны эканамічнай дыскрымінацыі;
- трагічная гібель журналіста і грамадскага актывіста Алега Бябеніна і пагрозы на адрас яго калег, якія выказвалі сумнеў у афіцыйнай версіі яго смерці (самагубства).

1 ліпеня ўступіў у сілу прэзідэнцкі ўказ № 60 ад 01.02.2010 г. “Аб захадах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегменту сеткі інтэрнэт”, дзеля выканання якога прынята яшчэ 12 прававых актаў. У адпаведнасці з указам і прынятымі дзеля яго выканання прававымі дакументамі, усе інтэрнэт-рэсурсы, якія аказваюць паслугі ў Беларусі, павінны быць пераведзены на беларускія серверы і зарэгістраваны; уводзіцца абавязковая ідэнтыфікацыя асобы наведвальнікаў інтэрнэт-кафэ і іншых пунктаў калектыўнага карыстання інтэрнэтам (гэта ж тычыцца і вай-фай), ідэнтыфікуюцца мадэмы індывідуальных інтэрнэт-карыстальнікаў, складаюцца “чорныя спісы” сайтаў, доступ да якіх блакуецца ў абавязковым парадку для дзяржаўных арганізацый, а таксама ўстановаў адукацыі і культуры, а для іншых карыстальнікаў па іх заяве. Пры гэтым пералік блакуемых рэсурсаў, якія знаходзяцца па-за межамі Байнэту, з’яўляецца закрытым для карыстальніка.

Найгоршыя апасенні ў сувязі з спробамі дзяржавы ўзяць пад кантроль інтэрнэт пакуль не пацвердзіліся: “апазіцыйныя” сайты ў “чорных спісах” не апынуліся. 19 снежня 2010 г., падчас прэзідэнцкіх выбараў і масавых акцый пратэсту доступ да іх абмяжоўваўся “традыцыйнымі” тэхнічнымі сродкамі.

У ліпені-верасні Міністэрства інфармацыі вынасла палітычна матываваныя пісьмовыя папярэджанні на адрас вядучых дэмакратычных выданняў “Наша Ніва”, “Народная воля”, “Новы час”.

Папярэджанню на адрас “Нашай нівы” папярэднічаў выпуск нумару газеты, прысвечанага крытычнаму фільму “Хросны бацька” пра А.Р.Лукашэнку, скрайне негатыўна ўспрынятаму беларускімі ўладамі. Нумар газеты быў надрукаваны, аднак, па інфармацыі рэдакцыі, у большасць кіёскаў “Саюздруку”, якія распаўсюджваюць газету ў розніцу, не трапіў. Пасля таго, як газета напісала пра гэта, яна атрымала пісьмовае папярэджанне Міністэрства інфармацыі ад 22 ліпеня за распаўсюд непраўдзівай інфармацыі. Другое папярэджанне, вынесенае 26 ліпеня, таксама было выклікана асвятленнем газетай сітуацыі ў сувязі з выхадам згаданага фільма. Такім чынам, на пачатку прэзідэнцкіх выбараў “Наша Ніва” атрымала 3 папярэджанні, у той час як паводле беларускага закона “Аб сродках масавай інфармацыі” Мініфарм можа звяртацца ў суд з зыскам аб закрыцці газеты пасля двух, вынесеных нават з самай нязначнай нагоды, папярэджанняў. Адначасова ў рэдакцыі газеты “Наша Ніва” пачалася пазапланавая падатковая праверка. Спробы абскардзіць папярэджанні ў Вышэйшы гаспадарчы суд ні да чаго не прывялі: той пакінуў папярэджанні ў сіле.

“Народная воля” атрымала чацвёртае цягам года папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі 13 верасня. Нагодай для яго вынясення сталі публікацыі аб затрыманні супрацоўнікамі Камітэта дзяржаўнай бяспекі супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнага кантролю і звязаным з імі новым карупцыйным скандале. Эксперты ацанілі гэта як відавочную спробу ўладаў замаўчаць тэму карупцыі ў краіне і канфліктаў паміж сілавымі структурамі (як у выпадку з “Нашай Нівай” – напружанасць ва ўзаемадачыненнях з расійскім кіраўніцтвам).

У жніўні быў вымушаны прыпыніць выпуск “Бобруйский курьер”. Гэтаму папярэднічалі шматлікія факты ціску з боку мясцовага гарвыканкама і падатковай інспекцыі.

Узрушэнне і шок у грамадстве выклікала трагічная смерць журналіста і грамадскага актывіста Алега Бябеніна. Адзін з заснавальнікаў сайта “Хартыя-97”, сябар каманды прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Андрэя Саннікава быў знойдзены павешаным 3 верасня 2010 г. Беларускія ўлады паспешліва аб’явілі яго смерць самагубствам, хаця яго калегі і блізкія звярталі ўвагу на факты і абставіны, якія супярэчылі афіцыйнай версіі. Пасля такіх публікацый журналісткі Святлага Калінкіна (“Народная воля”), Наталля Радзіна (“Хартыя-97”), журналіст і драматург Мікалай Халезін сталі атрымліваць пагрозы. Еўрапейская федэрацыя журналістаў, якая сярод іншых звярнулася да беларускіх уладаў з патрабаваннем правесці аб’ектыўнае расследаванне, звярнула ўвагу, што папярэднія гучныя справы, якія тычыліся гібелі беларускіх журналістаў, не далі дакладных адказаў на пытанні аб тым, што здарылася. Гэта тычыцца справы Дзмітрыя Завадскага, які быў выкрадзены 7 ліпеня 2000 г., і Веранікі Чаркасавай, жорстка забітай у сваёй кватэры 20 кастрычніка 2004 г.

## 3.3. Асноўныя парушэнні правоў журналістаў і СМІ падчас выбараў 19 снежня 2010 г. і ў паслявыбарны перыяд

19 снежня 2010 г. у Беларусі адбыліся прэзідэнцкія выбары. Яны суправаджаліся масавымі парушэннямі правоў журналістаў і СМІ. Пераследы за свабоднае выказванне меркавання парцягваюцца і дагэтуль.

Да вечара 19 снежня ў краіне былі заблакаваны інтэрнэт-рэсурсы, якія асвятлялі выбары: **charter97.org** («Хартыя-97»), **belaruspartisan.org** («Белорусский партизан»), **gazetaby.com** («Салідарнасць»), **ucpb.org** (сайт прыхільнікаў Аб’яднанай грамадзянскай партыі), **udf.by**, **electroname.com**, **bchd.info** (Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя), **spring96.org** (Праваабарончы цэнтр «Вясна»), **www.euroradio.fm** («Еўрапейскае радыё для Беларусі»), **www.svaboda.org** **(**Радыё «Свабода»**)**, (сайт кампаніі «Гавары праўду») ды іншыя. Узніклі праблемы з доступам да **Facebook** і **LiveJournal**, **Google.** Доступ да сайтаў праз шэраг вядомых ананімайзераў таксама быў немагчымы, паколькі яны таксама блакаваліся.

Яшчэ да закрыцця выбарчых участкаў падчас нападу прадстаўнікоў сілавых структур на кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева і яго прыхільнікаў пацярпелі некалькі журналістаў беларускіх і замежных СМІ. Праваахоўнікі збілі іх, пашкодзілі і адабралі прафесійную апаратуру, не звяртаючы ўвагі на журналісцкія пасведчанні.

Затрыманні і збіццё журналістаў працягваліся пасля акцыі пратэсту ўвечары 19 снежня. Па інфармацыі ГА “БАЖ”, у дзень выбараў і паслявыбарчы перыяд як мінімум 27 журналістаў былі затрыманы, больш за 20 былі збіты супрацоўнікамі міліцыі. 13 журналістаў былі асуджаны на адміністратыўны арышт на тэрмін ад 10 да 15 сутак.

Сямёра журналістаў і сябраў ГА “БАЖ” былі затрыманы і змешчаны пад варту па абвінавачанні ў крымінальным злачынстве – арганізацыі масавых беспарадкаў і ўдзеле ў іх (арт. 293 КК “Масавыя беспарадкі”). Гэта Ірына Халіп, журналістка “Новой газеты” (Расія) і жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, прэс-сакратар А. Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў, рэдактарка сайта “Хартыя-97” Наталля Радзіна, а таксама актывісты штабоў кандыдатаў у прэзідэнты публіцыст Аляксандр Фядута, рэдактар газеты “Товарищ”, сябра праўлення ГА “БАЖ” Сяргей Вазняк, Зміцер Бандарэнка, сябра рады ГА “БАЖ” Павел Севярынец. Максімальная санкцыя, якая ўжываецца па гэтым артыкуле - 15 гадоў пазбаўлення волі.

(Журналіст і прэс-сакратар кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў асуджаны на пачатку сакавіка 2011 г. на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. А. Фядута, П. Севярынец і Зм. Бандарэнка ўтрымліваюцца пад вартай, І. Халіп пры канцы студзеня 2011 г. гэтая мера стрымання была зменена на хатні арышт з вельмі жорсткім рэжымам, пры якім у яе кватэры пастаянна знаходзяцца два супрацоўнікі КДБ, доступ у кватэру забаронены ўсім, апроч бацькоў Ірыны, ёй нельга карыстацца інтэрнэтам і нават падыходзіць да акна. Н. Радзіна і С. Вазняк былі адпушчаныя пад падпіску аб нявыездзе).

20 снежня ГА “БАЖ” выказала пратэст з нагоды шакавальных фактаў прымянення сілы супрацоўнікамі міліцыі ў дачыненні да журналістаў і грамадскіх актывістаў, а таксама з нагоды формы асвятлення беларускімі дзяржаўнымі электроннымі СМІ мірнай грамадзянскай акцыі, якая прайшла ўвечары 19 снежня ў г. Мінску: *“Беларускае грамадства было абсалютна дэзінфарміравана наконт мэтаў мерапрыемства, колькасці ўдзельнікаў і іх дзеянняў, а таксама жорсткасці, з якой дзейнічалі супрацоўнікі міліцыі падчас разгону мірнай акцыі”.* На заяву ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” на наступны ж дзень адгукнулася Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, якое запатрабавала ад арганізацыі тлумачэнняў, на якой падставе ГА “БАЖ” заступаецца не толькі за журналістаў, але і за грамадскіх актывістаў.

Абурэнне збіццём і арыштамі журналістаў і салідарнасць з беларускімі калегамі выказалі таксама Міжнародная федэрацыя журналістаў, прадстаўнік АБСЕ па пытанням свабоды СМІ Дуня Міятавіч, Саюз журналістаў Расіі, Саюз журналістаў Літвы, Сетка журналістаў у выгнанні (Exiled Journalists' Network), Міжнародны інстытут прэсы (IPI) і яго асацыяваная Медыя-арганізацыя Паўднёва-Усходняй Еўропы (SEEMO), Рэпарцёры без межаў і інш.

24 снежня ГА “БАЖ” звярнулася да Генепральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, міністра ўнутраных спраў і міністра юстыцыі з заклікам звярнуць увагу на шматлікія парушэнні закона, прыняць усе неабходныя захады для аўднаўлення законнасці, знайсці вінаватых і прыцягнуць іх да адказнасці. Аднак пракуратура адмовілася разглядаць зварот на сутнасці, а Міністэрства юстыцыі зноў запатрабавала ў ГА “БАЖ” тлумачэнняў у сувязі з яго прыняццем.

Тым часам хваля рэпрэсій супраць журналістаў і СМІ працягвалася. Журналістаў выклікалі на допыты ў КДБ, у офісах СМІ і кватэрах журналістаў праводзілі ператрусы.

Так, 25 снежня адбыўся вобшук у памяшканні “Еўрапейскага радыё для Беларусі” ў адсутнасці супрацоўнікаў гэтай радыёстанцыі. З офісу былі вынесены капм’ютары, ноўтбукі, сервер, дыктафоны, фотаапараты, партатыўныя відэакамеры – усяго 43 найменні. ЕРБ мае ў Беларусі карэспандэнцкі пункт і акрэдытаваных карэспандэнтаў.

Уноч з 25 на 26 снежня невядомыя спецыяльнай пілой разрэзалі дзверы мінскага офіса спадарожнікавага тэлеканалу “Белсат”, які вяшчае з тэрыторыі Польшчы і не мае ў Беларусі афіцыйнага статусу (беларускія ўлады неаднаразова адмаўлялі “Белсату” ў адкрыцці карпункта і акрэдытацыі карэспандэнтаў). На той момант у памяшканні

нікога не было: журналісты разам з тэхнікай і абсталяваннем выехалі з офісу за некалькі дзён да гэтага.

28 снежня ператрус прайшоў у памяшканні Беларускага ПЭН-Цэнтра, дзе размяшчаецца рэдакцыя газеты "Наша Ніва". Супрацоўнікі КДБ адабралі 12 камп'ютараў, флэш-карты і CD-дыскі. Адначасова быў праведзены вобшук на кватэры глоўнага рэдактара "Нашай Нівы" Андрэя Скурко. У яго канфіскавалі хатні камп'ютар. Ператрусы праводзіліся пад выглядам расследавання дзвюх крымінальных справаў: аб масавых беспарадках і аб знявазе дзяржаўных сімвалаў (арт. 370 КК).

30 снежня вобшук прайшоў у кватэры супрацоўніцы "Белсату" Кацярыны Ткачэнкі. У яе забралі ноўтбук.

31 снежня ператрус адбыўся ў кватэры фотакарэспандэнткі "Нашай Нівы" Юліі Дарашкевіч, былі канфіскаваны 2 ноўтбукі, перанасныя вінчэсцеры, дыктафон – усяго 15 носьбітаў інфармацыі. У той жа дзень прайшоў вобшук у кватэры відэаапэратара "Нашай Нівы" Таццяны Гаўрыльчык. 3 студзеня 2011 г. Таццяну выклікалі на размову ў КДБ. Таццяна адмовілася ад размовы пасля таго, як да яе не быў дапушчаны яе адвакат. На наступны дзень невядомы пагражаў ёй па тэлефоне збіццём.

Ператрусы праводзіліся таксама ў кватэрах журналістаў, якіх абвінавачваюць у арганізацыі масавых беспарадкаў.

Па звестках ГА "БАЖ", вобшукі прайшлі ў 3 офісах СМІ і ў 12 кватэрах жрналістаў. У выніку, па звестках на люты 2011 г., спецслужбы адабралі 114 адзінак прафесійнай апаратуры (без уліку носьбітаў інфармацыі).

Адбіранне носьбітаў інфармацыі і абсталявання ў журналістаў сведчыць пра спробы ўладаў абмежаваць распаўсюд аб'ектыўнай інфармацыі пра падзеі 19 снежня 2010 г. і ў наступныя дні. У гэтых жа мэтах з праграм расійскіх тэлеканалаў, якія транслююцца на тэрыторыі Беларусі, выразаліся інфармацыйныя сюжэты пра падзеі ў Беларусі. Расійскія тэлепраграмы трапляюць у эфір праз беларускія рэдакцыі "НТВ-Беларусь", "РТР-Беларусь" і "ОРТ-ОНТ", што стварае тэхнічную магчымасць умешвацца ў змест іх перадач.

У сувязі з масавым правядзеннем ператрусаў у офісах і на кватэрах журналістаў міжнародная арганізацыя "Рэпарцёры без межаў" прыняла 30 снежня заяву, у якой адзначыла, што рэпрэсіі супраць беларускіх СМІ, якія асвятлялі паслявыбарчыя падзеі 19 снежня, у апошнія дні яшчэ больш узмацніліся. Арганізацыя заклікала ўрады краін Еўрапейскага Саюза і Расіі, а таксама міжнародныя інстытуты "даць рашучы адказ, каб прадухіліць яшчэ больш жорсткія рэпрэсіі ў дачыненні да СМІ".

Спыніць атакі на незалежную прэсу ў Беларусі і тэрмінова вызваліць затрыманых журналістак Ірыну Халіп і Наталлю Радзіну заклікала прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч.

**Аднак у 2011 г. парушэнні правоў журналістаў і СМІ, звязаныя з прэзідэнцкімі выбарамі 2010 г., працягваліся.**

# 4. НЕКАТОРЫЯ АСПЕКТЫ ПАРУШЭННЯ СВАБОДЫ СМІ Ў БЕЛАРУСІ Ў 2010 г.

## 4.1. Выклікі ў дзяржаўныя органы. Папярэджанні пракуратуры, Міністэрства інфармацыі

**1 лютага** на допыт ва ўпраўленне ўнутранных спраў Віцебскага аблвыканкама быў выкліканы незалежны журналіст, рэдактар сайта **«Народныя Навіны Віцебска» Сяргей Серабро**. Пра тое, што ён праходзіць як сведка па крымінальнай справе супраць мясцовага актывіста Сяргея Каваленкі (яго абвінавачвалі ў вывешванні бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай навагодняй ёлцы Віцебска), журналіст даведаўся толькі падчас допыту. Следчая Аксана Муравіцкая цікавілася, чаму журналіст здымаў вывешванне сцяга і навошта змясціў гэтыя фотаздымкі ў інтэрнэце.

Папярэдне журналісту казалі, што размова пойдзе пра прыналежнасць аргтэхнікі, забранай пасля ператрусу 13 студзеня ў кватэры, якую здымае С. Серабро. (13 студзеня ў рэдактара «Народных навінаў Віцебска» быў вобшук, пад час якога забралі два камп'ютары. Тэхніку вярнулі 27 студзеня).

**22 лютага** рэдактара «Народных навінаў Віцебска» С. Серабро зноў выклікалі на допыт у міліцыю. Цяпер з ім гутарыў старшы следчы упраўлення папярэдняга расследавання УУС Віцебскага аблвыканкама **Андрэй Баранаў**, але па той жа “справе Каваленкі”. Новага следчага цікавілі абставіны знаёмства спадароў Серабро і Каваленкі.

**2 лютага** гомельскую незалежную журналістку **Ларысу Шчыракову** выклікалі ў Гомельскую абласную пракуратуру для дачы тлумачэнняў. Паводле пракурора **Алесі Рабцавай,** на журналістку паскардзіўся памочнік начальніка аддзела прызыву гомельскага гарадскога ваенкамата **Ігар Алейнікаў**. З яго словаў, 14 студзеня яму патэлефанавала спн. Шчыракова і, назваўшыся журналісткай «Белсата», узяла каментар пра аднаго з прызыўнікоў, які патрабаваў альтэрнатыўнай службы. Пазней ён пачуў свой каментар у эфіры згаданага спадарожнікавага тэлеканала і вырашыў, што яго правы парушаныя. Па словах самой Шчыраковай, яна нікому не тэлефанавала, а спадар Алейнікаў кажа няпраўду. Пракуратура ўзяла бок журналісткі.

**11 сакавіка** стала вядома,што Міністэрства інфармацыі Беларусі вынесла другое за год папярэджанне ЗАТ «БелКП-ПРЕСС» - заснавальніку газеты «Комсомольская правда» в Белоруссии». Прычыну ўжывання санкцыі і ў Мініінфармацыі, і ў рэдакцыі «Комсомольской правды» в Белоруссии» агучыць адмовіліся.

**23 красавіка** беларускаму карэспандэнту агенцтва **Associated Press Юрасю Карманаву** патэлефанаваў невядомы, які назваўся супрацоўнікам КДБ Алегам Анатольевчам, і запрасіў журналіста на размову з нагоды яго нядаўнай паездкі ў Кыргызстан. Журналіст адмовіўся ісці на якія-кольвек «гутаркі» без афіцыйнай позвы, дасланай на хатні адрас. Карманаў знаходзіўся ў Бішкеку па заданні маскоўскай рэдакцыі АР з 8 да 19 красавіка, асвятляючы дзяржаўны пераварот у Кыргызстане.

**13 траўня** кіраўнік Брэсцкага аддзялення рэспубліканскага грамадскага аб’яднання прадпрымальнікаў «Перспектыва» **Віктар Чайкоўскі** атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад Брэсцкай пракуратуры “за неаб’ектыўныя каментары ў СМІ”. «Пракуратурай Брэсцкай вобласці разгледжаныя матэрыялы, якія паступілі ад Упраўлення КДБ Рэспублікі Беларусь па Брэсцкай вобласці, аб грамадскай

дзейнасці, якая Вамі праводзіцца. З прадастаўленых матэрыялаў вынікае, што Вы, з'яўляючыся намеснікам старшыні БРГА „Перспектыва", чальцом Свабоднага прафсаюза Беларускага, неаб'ектыўна каментуеце ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і замежных, сетцы інтэрнэт, сайтах racyja.by, perspektiva.org, charter97.org, euromost.org, svaboda.by, zapraudu.info сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь», - паведамлялася ў дакуменце ад **3 траўня** за подпісам намесніка пракурора вобласці, старшага саветніка юстыцыі Тачко. Далей пракурор папярэджваў, што такая дзейнасць спадара Чайкоўскага можа прывесці да дыскрэдытацыі Рэспублікі Беларусь і яе ўладных органаў, што падпадае пад артыкул 369-1 Крымінальнага Кодэкса.

**25 траўня** журналіста зарэгістраванай у Расіі газеты **«Витебский курьер» Мікалая Петрушэнку** выклікалі ў Талачынскі РАУС, каб узяць з яго тлумачэнні наконт артыкула «Даёшь гласность доходов чиновников». Як высветлілася, у міліцыю паступіла заява ад **Уладзіміра Шашалевіча**, загадчыка аддзела спорта і турызма Талачынскага райвыканкама, абуранага зместам артыкула ў «Витебском курьере» ад 1 красавіка. У публікацыі гаварылася, што ў талачынскай ды шэрагу іншых раёнак напярэдадні мясцовых выбараў не былі надрукаваныя звесткі пра прыбыткі кандыдатаў у дэпутаты.

М. Петрушэнка даводзіў, што яму як мясцоваму жыхару і выбаршчыку было б цікава даведацца пра гадавыя прыбыткі старшыні райвыканкама **Аляксандра Марэйкі**, яго намесніка **Георгія Мурашкі**, а таксама **Уладзіміра Шашалевіча**. Бухгалтарка аддзела, які ўзначальвае Шашалевіч, у 2009 годзе была асуджана за раскраданне дзяржаўных сродкаў на суму 123 мільёны рублёў, «а яе начальнік выйшаў з гэтай гісторыі з незаплямленай рэпутацыяй і паўторна ідзе ў дэпутаты райсавету», — падкрэсліваў Петрушэнка.

**31 траўня** Міністэрства інфармацыі вынеслі трэцяе цягам года папярэджанне рэдакцыі недзяржаўнай газеты «Народная воля». Папярэджанне вынесена за парушэнне арт. 4 Закона «Аб СМІ», які абавязвае сродкі масавай інфармацыі распаўсюджваць адпаведную рэчаіснасці інфармацыю. Падставай для санкцый стала серыя публікацый **І. Копыла «Нябышына. Вайна»**, што друкавалася ў выданні ў сакавіку 2010 года.

Спасылаючыся на заключэнне Інстытуту гісторыі НАН Беларусі, Мінінфармацыі сцвярджае, што шэраг прыведзеных у публікацыях гістарычных звестак не адпавядае рэчаіснасці. Акрамя таго, «распаўсюд непраўдзівай інфармацыі, …якая дыскрэдытуе партызанскі рух у Беларусі, дзеянні Чырвонай Арміі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны», стаў прычынай правядзення грамадзянамі… пікетаў, а таксама новых праяваў негатыўнай грамадскай рэакцыі», - паведамляецца ў дакуменце за подпісам міністра інфармацыі **Алега Праляскоўскага**.

**1 чэрвеня** журналіста, стваральніка сайта **«Белорусский партизан» Паўла Шарамета** дапыталі ў МУС Расіі на запыт праваахоўных органаў Беларусі, гэтым разам — УУС па Гродзенскай вобласці. Следчых з Беларусі цікавіла, хто аўтар артыкулу, размешчанага на сайце «Белорусский партизан» **18 сакавіка**, які тычыўся былога міліцэйскага начальніка з Гродна **Генадзя Хоцькі**. У артыкуле гаварылася, што міліцыянт, аб'яўлены МУС Беларусі ў міжнародны вышук, па некаторых звестках, збег у Нарвегію.

Журналіст паведаміў на допыце, што не ведае аўтарства артыкулу і што ніколі асабіста не сустракаўся з Хоцькам ці яго сваякамі.

8 чэрвеня **Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне заснавальніку газеты** «Товарищ» **Беларускай партыі левых «Справядлівы свет». Яе абвінавацілі ў парушэнні закона РБ «Аб сродках масавай інфармацыі» ў сувязі са зменай**

**перыядычнасці выдання газеты.У якасці доказу прыводзіцца той факт, што трэці нумар зарэгістраванай як штотыднёвік газеты выйшаў толькі 7 траўня 2010 года.**

«Пакуль у нас ёсць магчымасць выходзіць толькі 1–2 разы на месяц», — пацвердзіў галоўны рэдактар газеты «Товарищ» **Сяргей Вазняк**. Вазняк адзначыў, што газета мае аб'ектыўныя прычыны для змены перыядычнасці: «Газету загналі ў сітуацыю, калі няма як зарабляць грошы. Мы не можам распаўсюджвацца праз падпіску, не можам друкавацца ў краіне, не можам нават збіраць тут рэкламу". Галоўны рэдактар газеты звязаў папярэджанне ад Мінінфармацыі з хуткім стартам прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

**10 чэрвеня** стала вядома, што рэдакцыя недзяржаўнай газеты «Новы час» атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. У папярэджанні гаворыцца пра недакладнасці ў выходных дадзеных выдання — адсутнасць імя па бацьку галоўнага рэдактара, адсутнасць штрых-кода і назвы дзяржаўнага органа кіравання ў сферы масавай камунікацыі.

**11 чэрвеня** ў рэдакцыю "Новага часу" прыйшоў ліст з Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусі, у якім газету вынавацяць у парушэнні п.4.6 артыкула № 10 закона «Аб рэкламе». У лісце адзначаецца, што 14 траўня ў газеце была надрукаваная рэклама тэлеканалу «Белсат TV» без указання найменне, рэквізітаў ліцэнзіі рэкламадаўцы і яго ўліковага нумара плацельшчыка. У дачыненні да рэдакцыі «Новага часу» Міністэрства гандлю склала пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні. На думку галоўнага рэдактара «Новага часу» **Аляксея Караля**, такая ўвага з боку дзяржаўных органаў да выдання — прадвеснік будучых выбараў.

**25 чэрвеня** пракурор Клецкага раёна Алег **Карабкоў** вынес афіцыйнае папярэджанне аб «недапушчальнасці парушэння заканадаўства аб СМІ» выдаўцу каталіцкай маланакладнай газеты **«Апостальскі ветразь»**.

Грамадскага актывіста з Клецка **Алега Нікуліна**, якія выдае газету накладам 299 асобнікаў і аб'ёмам адзін друкаваны аркуш фарматам А4, вінавацяць у тым, што ён не з'яўляецца рэдактарам СМІ і не зарэгістраваны ў якасці юрыдычнай асобы, а сам бюлетэнь не зарэгістраваны як друкаваны сродак масавай інфармацыі. Выдаўца «Апостальскага ветразя» папярэдзілі, што ў выпадку далейшага парушэння заканадаўства, ён будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

Як адзначыў намеснік старшыні ГА «БАЖ», юрыст **Андрэй Бастунец**, закон "Аб СМІ" дапускае выданне без рэгістрацыі друкаваных СМІ, калі іх наклад не перавышае 299 экзепляраў (п.п. 7.4. п. 7 арт. 13).

**1 ліпеня** намесніцу рэдактара недзяржаўнай газеты **«Народная воля»** Марыну Коктыш выклікалі ў следчае ўпраўленне КДБ да старшага следчага Паўла Чарняўскага ў якасці сведкі па крымінальнай справе пракурора Святланы Байковай. Пра гэта паведамлялася ў пісьмовай позве, якую **30 чэрвеня** ўвечары прынеслі журналістцы дахаты. Раней у журналісткі было некалькі публікацый на гэтую тэму. Следчы заявіў, што КДБ не мае ніякіх прэтэнзій да публікацый журналісткі на тэму справы Байковай. У той жа час, следчага цікавіла, дзе журналістка вучылася, як даўно працуе ў СМІ, з кім падтрымлівае кантакты і г.д. На большасць з гэтых пытанняў М. Коктыш адмовілася адказваць, паколькі яны не мелі дачынення да справы, па якой яе выклікалі.

**1 ліпеня** ў следчым аддзеле пракуратуры г. Мінска адбыўся допыт журналісткі інтэрнэт-рэсурсу **«Хартыя-97» Наталлі Радзінай**. Яе дапытвалі па крымінальнай справе, распачатай «ў дачыненні да нявысветленых асобаў, якія распаўсюдзілі заведама ілжывыя звесткі ў сетцы інтэрнэт". Гаворка ідзе пра чытацкія каментары на charter97.org пад артыкулам "Травля в стиле 1937 года". Журналістцы паведамілі, што па дадзенай крымінальнай справе яна праходзіць пакуль як сведка.

Допыт праводзілі намеснік начальніка следчага аддзелу пракуратуры **Віктар Фешчанка** і намеснік начальніка Упраўлення па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій МУС РБ (Упраўленне «К») **Ігар Пармон**. Іх цікавіла найперш, як працуе сайт, як адбываецца яго адміністраванне, дзе знаходзіцца рэдакцыя і дзе ён зарэгістраваны. Задавалася шмат тэхнічных пытанняў.

**22 ліпеня** Мініфармацыі вынесла папярэджанне недзяржаўнай нацыянальнай газеце “Наша Ніва”. Міністэрства абвінаваціла газету ў распаўсюдзе звестак, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. Падставай для санкцыі стаў загаловак «Хросны бацька сканфіскаваў» («НН» № 26). У публікацыі ідзе гаворка пра тое, што чытачы па ўсёй краіне не знайшлі ў кіёсках «Белсаюздруку» 25-га нумару газеты, дзе распавядалася пра фільм НТВ **«Хросны бацька»** і рэакцыю на яго беларускіх уладаў.

«Паводле артыкула 244 Грамадзянскага кодэкса РБ, канфіскацыяй з’яўляецца безвыплатнае вымание маёмасці ва ўласніка ў выглядзе санкцыі за здзейсненае злачынства ці іншае правапарушэнне», — адзначае Мініфармацыі. Далей прадстаўнікі міністэрства спасылаюцца на інфармацыю РУП «Белсаюздрук» аб тым, што наклад «НН» № 25 ад 7 ліпеня 2010 г. «быў накіраваны для рэалізацыі ў гандлёвыя аб’екты прадпрыемства». Адпаведна, лічыць Мініфармацыі, «канфіскацыя выдання не ажыццяўлялася». Інфармацыя, змешчаная ў артыкуле «Хросны бацька сканфіскаваў», як адзначаецца ў лісце за подпісам міністра **Алега Праляскоўскага**, «можа нанесці шкоду ў тым ліку і дзяржаўным інтарэсам, паколькі скажае практыку ўзаемадзеяння дзяржавы з сродкамі масавай інфармацыі».

**26 ліпеня** Міністэрства інфармацыі зрабіла яшчэ адно папярэджанне рэдакцыі “Нашай Нівы” за парушэнне артыкула 4 закона “Аб СМІ” - распаўсюд звестак, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. Гэтым разам падставай стаў артыкул «БРСМ рэкламуе фільм «Хросны бацька» з дапамогай смецця», змешчаны ў «НН» № 25.

«Згодна інфармацыі грамадскага аб’яднання „Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі“ актывістамі згаданага аб’яднання 6 ліпеня ў г. Мінску была зладжаная акцыя, зместам якой не з’яўлялася рэклама згаданага фільма», — адзначаецца ў лісце. Адпаведна, лічаць у Мініфармацыі, «апублікаваная інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці і ганьбіць рэпутацыю дадзенай юрыдычнай асобы».

Абодва папярэджанні непасрэдна тычацца нумару «НН», якога чытачы па ўсёй краіне не знайшлі ў кіёсках «Белсаюздруку».

Рэдакцыя “НН” абскардзіла папярэджанні ў Вышэйшы гаспадарчы суд, але **15 верасня** суддзя ВГС **Караткевіч А.В.** пакінула ў сіле папярэджанні Мініфармацыі.

**10 жніўня** незалежная журналістка з Гомеля **Таццяна Бублікава** атрымала ад Гомельскай абласной пракуратуры папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння закона «Аб СМІ», падпісанае пракурорам вобласці **Валянцінам Шаевым**.

Паводле дакумента, датаванага 6 жніўня, Т. Бублікава займаецца журналісцкай дзейнасцю незаконна, бо не мае працоўных і іншых стасункаў са сродкамі масавай інфармацыі. Пракуратура Гомельскай вобласці зацікавілася журналісцкай дзейнасцю Таццяны Бублікавай на падставе заявы грамадзяніна **Віктара Лебяшкова**. Сп. Лебяшкоў, які працуе аграномам у калгасе **«Урыцкае»,** 30 чэрвеня даў Таццяне Бублківавай каментар на тэму ўплыву спёкі на расліны. Пазней аграному стала вядома, што яго інтэрв’ю было ў эфіры польскага спадарожнікавага тэлеканала «Белсат». У ходзе праверкі, якую праводзіла пракурор **Алеся Рабцава**, Т. Бублікава патлумачыла, што сапраўды сустракалася з Лебяшковым, каб узяць каментар аб засушлівым надвор’і. Аднак гэта было ў рамках супрацоўніцтва з прыватнай польскай фірмай **«N.E.W. S. Informacije»,** з якой яна мае дамову ад пачатку 2010 года. Паводле дамовы, выканаўца мусіць прадстаўляць відэаматэрыялы на замову польскага

боку. На згаданую фірму не ўскладзены функцыі рэдакцыі СМІ. «Я ні з якімі сродкамі масавай інфармацыі не супрацоўнічаю - ні з беларускімі, ні з замежнымі. Пасведчанне журналіста ў мяне адсутнічае", — адзначыла ў тлумачэннях журналістка.

**13 верасня** карэспандэнта **«Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута** выклікалі на «размову» супрацоўнікі Упраўлення барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Падставай для гэтага стаў асабісты блог журналіста ў інтэрнэце, дзе ён падзяліўся чуткамі наконт прароцтва пра гібель першай асобы дзяржавы на фестывалі "Дажынкі-2010" у Лідзе. Начальнік першага аддзелу ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй УУС Гродзенскага аблвыканкама **Аляксандар Жукаў** цікавіў у журналіста, хто даў яму гэтую інфармацыю і ці ведае ён асабіста аўтараў "прароцтва".

**13 верасня** Мінінфармацыі вынесла чацьвёртае цягам года папярэджанне газеце «Народная воля». Гэтым разам - за парушэнне арт. 4 закона «Аб СМІ», які прадпісвае распаўсюджваць інфармацыю, што адпавядае рэчаіснасці.

На думку Мінінфармацыі, рэдакцыя парушыла гэтае патрабаванне ў артыкулах «КГБ отправил госконтроль в нокаут» і «В КГК разгорается новый коррупционный скандал», надрукаваных у жніўні (№ № 128–129 ад 17–19 жніўня і № № 132–133 ад 24–26 жніўня).«Распаўсюд непраўдзівай інфармацыі пра дзейнасць Камітэта дзяржаўнага кантролю дыскрэдытуе ўказаны орган, можа адмоўна адбіцца на яго дзейнасці і пацягнуць іншыя негатыўныя наступствы», — папярэджвала міністэрства.

**14 верасня** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне за распаўсюд не адпаведнай рэчаіснасці інфармацыі (арт. 4 закона «Аб СМІ») недзяржаўнаму рэгіянальнаму выданню **«Брестская газета»**. Папярэджанне падпісала першая намесніца міністра інфармацыі **Лілія Ананіч**. Падставай для санкцыі стаў артыкул «Уставших от города спасут экопоселения» («БГ» № 27 ад 02 — 08 ліпеня). Мінінфармацыі папярэдзіла выданне, не чакаючы выхаду абвяржэння.

**30 верасня** журналіста "Радыё Рацыя" **Зміцера Кісяля** выклікалі на размову ў Брэсцкі аддзел КДБ, каб «высветліць праблемы, якія апошнім часам узніклі вакол яго асобы». Ісці на размову у КДБ журналіст адмовіўся. Разам з тым стала вядома, што з 22 верасня журналіст уключаны ў спіс невыязных з Беларусі. Як высветлілася, унесці Змітра Кісяля ў спіс папрасіў вайсковы камісарыят Пінска - быццам з-за таго, што ў ваенкамаце зніклі дакументы, датычныя яго асобы за апошнія два гады.

**18 кастрычніка** ў пракуратуры Мінскай вобласці апыталі Аляксандра Атрошчанкава, прэс-сакратара прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Андрэя Саннікава. Нагодай стаў гучны фільм тэлеканала **НТВ «Хросны бацька-4. Апошняя восень»**.

Следчага **Азарэвіча** цікавіла меркаванне Атрошчанкава наконт гвалтоўнасці смерці **Алега Бябеніна**, выказанае ў фільме. Следчы пытаўся, ці валодае А. Атрошчанкаў дакладнай інфармацыяй, ці выказаў толькі здагадкі.

**17 лістапада** стала вядома, што журналіста недзяржаўнага інфармагенцтва **БелаПАН** Віктара Федаровіча дапыталі ў якасці сведкі па крымінальнай справе супраць следчай Генпракуратуры Святланы Байковай. Раней журналіст падрыхтаваў шэраг публікацый на гэтую тэму. Допыт быў зладжаны на запыт КДБ, які запатрабаваў правесці праверку па факце несанкцыянаванага разгалошвання дадзеных папярэдняга расследавання па справе Байковай. Гутарку з журналістам вёў следчы па важных справах Генпракуратуры Уладзімір Шышко. Ён цікавіўся, якім чынам да журналіста трапілі пэўныя дакументы, датычныя справы, хто іх рэдагаваў і г.д. В. Федаровіч патлумачыў, што матэрыялы ён атрымаў законным шляхам ад адваката С. Байковай.

25 лістапада **стала вядома, што Міністэрства гандлю хоча прыцягнуць недзяржаўную рэгіянальную газету «Информ-прогулка» да адміністратыўнай адказнасці. Міністэрства высветліла, што ў некалькіх выпусках выдання ў маі 2010 г. размяшчалася рэклама тэлеканала** «Белсат TV» **«без указання наймення, уліковага нумару плацельшчыка замежнага рэкламадаўца». Паводле ліста, падпісанага 18 лістапада намеснікам міністра І. Наркевічам, тым самым газета парушыла п.4 арт. 10 закона «Аб рэкламе». Таму Мінгандлю «папярэджвае рэдакцыю... аб недапушчальнасці размяшчэння (распаўсюду) неналежнай рэкламы».**

**17 лістапада** ў пракуратуру Ганцавіцкага раёна выклікалі ўдзельніцу апытання, якое праводзіла рэгіянальная газета **«Ганцавіцкі час».** Адна з удзельніц апытання паскардзілася на недахоп інфармацыі пра выбары. Пракурор **Сяргей Дзешка** цікавіўся, ці сапраўды яна казала газеце тое, што там напісана — у прыватнасці, выказвала незадаволенасць недахопам інфармацыі пра ўсіх кандыдатаў, за выключэннем дзейнага прэзідэнта. У размове з намеснікам галоўнага рэдактара «ГЧ» Пятром Гузаеўскім Сяргей Дзешка не змог патлумачыць, паводле чыёй скаргі і з якой прычыны пракуратура зацікавілася гэтай публікацыяй.

**7 снежня** незалежны віцебскі журналіст Уладзіслаў Старавераў атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад Віцебскай абласной пракуратуры аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Падставай для папярэджання стала затрыманне Уладзіслава Стараверава ў той час, калі ён запісваў на відэа інтэрв'ю з Уладзімірам Правальскім – тады яшчэ патэнцыйным удзельнікам выбарчай гонкі. «8.11.2010 Вы праводзілі здымкі на прафесійную відэакамеру з лагатыпам “Белсат” (польскага канала тэлебачання). Ніякіх звестак пра акрэдытацыю Вас як журналіста “Белсат” на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь няма», — гаворыцца ў папярэджанні за подпісам намесніка пракурора вобласці **Г.А.Каранько**. Журналіста папярэдзілі, што яго могуць пакараць штрафам ад 20 да 50 базавых велічыняў паводле артыкула 22.9 КаАП за парушэнне заканадаўства аб СМІ.

**27 снежня** галоўнага рэдактара газеты **«Народная воля» Іосіфа Сярэдзіча** па тэлефоне выклікалі на допыт у Камітэт дзяржбяспекі ў якасці сведкі. Чалавек, які назваўся следчым КДБ, хацеў сустрэчы ў той жа дзень, але пры гэтым не паведаміў, па якой справе. Сп. Сярэдзіч адмовіўся ісці на сустрэчу без афіцыйнай позвы.

## 4.2. Ціск на журналістаў з нагоды крымінальнай справы аб паклёпе на генерала КДБ І.Каржа

**17 лютага намесніцу рэдактара газеты “Народная воля”** Марыну Коктыш дапыталі ў Ленінскім РУУС як сведку па крымінальнай справе аб паклёпе на былога начальніка УКДБ па Гомельскай вобласці **Івана Каржа** (пазней – начальніка УКДБ па Гродненскай вобласці). Справу ўзбудзілі 31.12. 2009 г. па ч. 2 арт. 188 КК РБ пасля з’яўлення шэрагу публікацый на тэму так званай «паляўнічай справы» (справа 4-х адказных супрацоўнікаў міліцыі Гомельскай вобласці і МУС, асуджаных за незаконнае паляванне і ціск на супрацоўнікаў КДБ). Допыт М. Коктыш у прысутнасці прадстаўніка ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Андрэя Бастунца правёў маёр **Аляксандр Чуй**. Прыкладна праз гадзіну пасля заканчэння допыту А.Чуй у суправаджэнні супрацоўнікаў міліцыі правёў ператрус на працоўным месцы М.Коктыш, санкцыянаваны пракурорам Гомельскай вобласці **Валянцінам Шаевым**. Міліцыянты забралі сістэмны блок ад камп'ютэра журналісткі.

**26 лютага** супрацоўнікі Савецкага РУУС г. Мінска на чале са следчым **Камінскім** правялі ператрус у кватэры шэф-рэдактара «Народнай волі» **Святланы Калінкінай** – таксама ў межах расследавання справы аб паклёпе на генерала КДБ І.Каржа. Міліцыянты забралі камп’ютары журналісткі і яе сына, флэшкі і телефонны нататнік.

**У гэты ж дзень** міліцыянты спрабавалі трапіць у квартэру да журналісткі **Ірыны Халіп,** якая працуе ў расійскай “Новой газете”. І.Халіп не адчыніла ім дзверы, і міліцыянты паабяцалі даслаць афіцыйную позву на допыт да следчага ў межах той жа справы аб паклёпе. Допыт адбыўся **4 сакавіка** - журналістку І.Халіп і яе мужа, палітыка **Андрэя Саннікава** паасобку дапыталі ў Партызанскім РУУС г. Мінска. Гутарыў з імі старшы дазнаўца **Аляксандр Пазняк. 5 сакавіка** ў І. Халіп і Андрэя Саннікава забралі кам’ютар, калі яны перасякалі беларуска-літоўскую мяжу.

**9 сакавіка** ў міліцыі дапыталі як сведку па той жа справе **Дзмітрыя Бандарэнку**.

Увечары **16 сакавіка** прадстаўнікі праваахоўных органаў у межах расследавання той жа справы аб паклёпе правялі вобшукі ў офісе сайта **«Хартыя-97»**, у прыватнай кватэры Ірыны Халіп, на працоўным месцы Святланы Калінкінай, у прыватнай кватэры Марыны Коктыш, а таксама ў кватэры, дзе жыве рэдактарка сайта «Хартыя-97» **Наталля Радзіна**. Былі таксама спробы трапіць у кватэру да сябраў ГА «БАЖ» Дзмітрыя Бандарэнкі і **Алега Бябеніна**.

Ва ўсіх выпадках міліцыянты забіралі носьбіты інфармацыі — камп’ютары, дыскі, флэшкі, карты памяці фотаапаратаў. Пераструсы праводзілі міліцыянты ў цывільным, некаторыя з іх — у масках. Пранікненне ў памяшканне офісу сайта «Хартыі-97» адбылося з ужываннем сілы, а журналістка Наталля Радзіна фізічна пацярпела, атрымаўшы ад аднаго з міліцыянтаў удар у твар.

**26 сакавіка** журналістак Святлану Калінкіну**,** Марыну Коктыш і Наталлю Радзіну выклікалі ў Савецкі РУУС Мінска на допыт у якасці сведак. Для правядзення допытаў адмыслова з Гомеля прыехаў старшы дазнаўца Гомельскага УУС **Аляксандр Пусеў**. Па словах шэф-рэдактара «Народнай волі» Святланы Калінкінай, следчага найперш цікавіла, хто мог размясціць «паклёпніцкія матэрыялы» на сайтах «Белорусский партизан» і «Хартыя-97». У Святланы пыталіся, ці ведае яна людзей, што там працуюць. Допыт запісваўся на відэа.

Допыт журналісткі Марыны Коктыш прайшоў у тым жа рэчышчы. У яе пыталіся, ці працуе яна на згаданыя сайты. Як і ў часе допыту Святланы Калінкінай, размову з дазнаўцам здымалі на відэа. Наталля Радзіна перанесла сустрэчу са следчым на пазнейшы час.

**2 красавіка** журналістак Ірыну Халіп, Святлану Калінкіну і Наталлю Радзіну па тэлефоне выклікалі ва Упраўленне ўнутраных спраў Першамайскага раёна Мінска да старшага дазнаўцы УУС Гомеля Аляксандра Пусева (усе наступныя допрыты таксама праводзіў ён жа).

**8 красавіка** каля дзвюх гадзін доўжыўся допыт беларускага журналіста **Паўла Шарамета**, які зараз жыве і працуе ў Маскве, у якасці сведкі па крымінальнай справе аб паклёпе на І. Каржа. Допыт вёўся дазнаўцам АУС г. Далгапруднага Маскоўскай вобласці (у гэтым населеным пункце быў зарэгістраваны сайт «Белорусский партизан» і там месціцца фірма, якая абслугоўвае яго сервер.) Пытанні тычыліся функцыянавання сайта „Белорусский партизан“, а таксама артыкула пра фігуранта “паляўнічай справы” капітана МУС **Вячаслава Дудкіна**, які пакінуў Беларусь з-за пагрозы арышту. Дазнаўца цікавіўся, ці сустракаўся журналіст з Дудкіным і пры якіх абставінах.

**28 красавіка** рэдактара сайта «Хартыя-97» Наталлю Радзіну выклікалі ў Першамайскі РУУС на чарговы допыт па крымінальнай справе аб паклёпе на І. Каржа. Учасе допыту яе распытвалі пра функцыянаванне рэдакцыі сайта «Хартыя-97». Журналістку азнаёмілі з вынікамі экспертызы 8-і камп'ютараў, забраных у яе 16 сакавіка ў часеператрусу. Камп'ютараў журналістцы не аддалі, спаслаўшыся на неабходнасць правесці іх дадатковую экспертызу. Акрамя таго, Наталлю азнаёмілі з пастановай аб правядзенні дадатковай тэхнічнай экспертызы з мэтай высветліць, ці адбывалася з гэтых камп'ютараў адміністраванне сайта «Хартыя-97». Журналістка лічыць, што пад выглядам расследавання крымінальнай справы аб паклёпе ўлады хочуць даведацца, хто працуе над стварэннем папулярнага інфармацыйнага рэсурсу, каб мець магчымасці ціску на людзей. Таксама для азнаямлення з вынікамі экспертызы і пастановай аб правядзенні дадатковага даследавання тэхнікі былі выкліканыя М.Коктыш і С.Калінкіна.

**19 мая** на допыт ў Першамайскі РУУС зноў выклікалі журналістак Святлану Калінкіну**,** Марыну Коктыш і Наталлю Радзіну. Журналістак азнаёмілі з вынікамі паўторнай экспертызы забранай у іх падчас ператрусаў аргтэхнікі. Усе 8 камп'ютараў, якія належалі журналістам «Хартыі», а таксама флэшка і сістэмныя блокі працоўнага і хатняга камп'ютараў Марыны Коктыш былі далучаныя да справы аб паклёпе ў якасці рэчавых доказаў. Напрыканцы траўня Святлане Калінкінай вярнулі ноўтбук і камп'ютар яе сына (яшчэ адзін ноўтбук і камп'ютар па-ранейшаму застаюцца ў следства).

**26 траўня** карэспандэнта расійскай **«**Новой газеты» Ірыну Халіп зноў дапыталі ў РУУС Першамайскага раёна Мінска. Журналістцы паведамілі, што адабраны ў яе камп'ютар далучаны да рэчавых доказаў па крымінальнай справе аб паклёпе, таму найбліжэйшым часам вернуты не будзе. У ходзе допыту дазнаўца Пусеў шмат пытаўся пра прафесійную дзейнасць І.Халіп, цікавіўся, што яна пісала пра сілавыя структуры і якім чынам яе артыкулы з'яўляюцца на сайце "Хартыі"97».

**15 снежня** стала вядома, што пракуратура г. Мінска афіцыйна запытала ад УУС Гомельскага аблвыканкама матэрыялы расследавання крымінальнай справы аб паклёпе на былога начальніка УКДБ па Гомельскай вобласці Івана Каржа, хаця следства прыпынена з мая 2010 г. Начальнік следчага аддзелу пракуратуры г. Мінска **Сяргей Іваноў** сказаў, што да забранай у журналістак тэхнікі «ёсць пытанні» па нейкай іншай крымінальнай справе, не звязанай са «справай Каржа».

Старшы дазнаўца Гомельскага абласнога УУС Аляксандр Пусеў, які вядзе следства аб паклёпе на І. Каржа, сказаў Марыне Коктыш, што матэрыялы справы з кастрычніка 2010 г. знаходзяцца ў Мінску, але ў звязку з чым іх запыталі, не ведае. У той жа час, ён запэўніў, што праводзіць якія-кольвек следчыя дзеянні — у тым ліку і даследаваць тэхніку журналістак — без ведама Гомеля пракуратура Мінска не мае права.

## 4.3. Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ

**20 ліпеня** стала вядома, што Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь у чарговы раз не задаволіла заяўкі на акрэдытацыю журналіста "**Радыё Рацыя" Віктара Парфёненкі**. У мінулым годзе сп. Парфёненка таксама спрабаваў акрэдытавацца для працы ў Беларусі, аднак тады таксама атрымаў адмову.

**10 жніўня** гомельская журналістка **Таццяна Бублікава** атрымала ад Гомельскай абласной пракуратуры папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння закона «Аб СМІ». Паводле дакумента ад 30 ліпеня, падпісанага пракурорам вобласці **Валянцінам Шаевым**, Т. Бублікава займалася журналісцкай дзейнасцю незаконна, бо не мела працоўных і іншых стасункаў са сродкамі масавай інфармацыі, а таксама акрэдытацыі пры МЗС у якасці карэспандэнта замежнага СМІ. У канцы пракурор папярэджвае, «што ў выпадку паўторнага парушэння заканадаўства аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі Вы будзеце прыцягнутыя да больш строгай адказнасці».

Пракуратура Гомельскай вобласці зацікавілася журналісцкай дзейнасцю Таццяны Бублікавай на падставе заявы аграномa калгаса «Урыцкае» Віктара Лебяшкова. Той заявіў, што даваў Бублікавай каментар на тэму ўплыву спёкі на расліны, але не даваў згоды на паказ яго інтэрв'ю ў эфіры «Белсата». У ходзе праверкі, якую праводзіла пракурор Алеся Рабцава, Таццяна Бублікава патлумачыла, што сапраўды сустракалася з Віктарам Лебяшковым, каб узяць каментар аб засушлівым надвор'і. Аднак гэта было ў рамках супрацоўніцтва з прыватнай польскай фірмай «N.E.W. S. Informacije», з якой яна мае дамову на супрацу з пачатку 2010 года. Паводле дамовы, выканаўца мусіць прадстаўляць відэаматэрыялы на замову польскага боку. На згаданую фірму не ўскладзеныя функцыі рэдакцыі СМІ.

**7 кастрычніка** прэсавы сакратар МЗС Беларусі **Андрэй Савіных** заявіў, што не плануецца праводзіць адмысловую акрэдытацыю замежных журналістаў на прэзідэнцкія выбары. Паводле яго слоў, у Беларусі на сталай аснове працуе каля 220 журналістаў замежных СМІ, якія маюць пастаянную акрэдытацыю. Акрамя таго, штомесяц з просьбай аб акрэдытацыі ў знешнепалітычнае ведамства звяртаецца ад 30 да 40 прадстаўнікоў замежных медыяў. Іншыя могуць атрымаць кароткатэрміновую акрэдытацыю на тэрмін да 2 месяцаў. У выпадку, калі замежны журналіст прыедзе ў Беларусь працаваць без акрэдытацыі, яму пагражае затрыманне і дэпартацыя. Такія інцыдэнты ў часе мінулых выбарчых кампаній былі.

**7 кастрычніка** рэдакцыя недзяржаўнай газеты **«Информ-прогулка»** атрымала афіцыйны запыт з Міністэрства гандлю з патрабаваннем патлумачыць размяшчэнне рэкламы спадарожнікавага тэлеканала **«Белсат»**. Як вынікае з ліста, міністэрства ўжо мае падазрэнні наконт невыканання некаторымі выданнямі патрабаванняў закона «Аб рэкламе» і зараз «маніторыць» выданні, якія рэкламавалі на сваіх старонках «Белсат». Ад газеты запатрабавалі прадставіць дакумент, які пацвярджаў бы юрыдычны статус замежнага рэкламадаўца («Белсата»); дамовы на вытворчасць і (альбо) размяшчэнне згаданай рэкламы і акты выкананых работ да іх; выпускі газеты, у якіх распаўсюджвалася згаданая рэклама, пачынаючы з красавіка гг.; пісьмовыя тлумачэнні «па сутнасці пытання».

**7 лістапада** стала вядома, што МЗС Беларусі не працягнуў акрэдытацыі карэспандэнту радыёстанцыі «Голос России» ў Беларусі Яўгену Агурцову. Тэрмін акрэдытацыі меў скончыцца 1 верасня, і маскоўская рэдакцыя загадзя даслала стандартны зварот у МЗС з просьбай працягнуць акрэдытацыю свайму карэспандэнту. Паводле паштовых штэмпеляў, ліст з Масквы быў адпраўлены 20 жніўня, але ў Мінск чамусьці прыйшоў толькі 11 верасня. З вымушаным спазненнем Яўген Агурцоў падаў у МЗС заяўку, якую разгледзелі толькі 2 лістапада. 3-га лістапада журналісту паведамілі, што акрэдытацыю яму не працягнулі на падставе пункта 10 «Палажэння аб парадку акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь журналістаў замежных СМІ» — за ажыццяўленне журналісцкай дзейнасці ад імя замежнага СМІ без акрэдытацыі. Прадстаўнік МЗС заявіў, што ў перыяд з моманту заканчэння акрэдытацыі Я. Агурцова да разгляду заяўкі на сайце радыёстанцыі з'яўляліся яго матэрыялы. Сам жа журналіст сцвярджае, што ён у гэты перыяд даваў каментары выключна як «пісьменнік-публіцыст», прыватная асоба, і на сайце радыёстанцыі яго прэзентавалі менавіта так.

**22 лістапада** стала вядома, што Міністэрства замежных спраў Беларусі не дало згоды на акрэдытацыю карэспандэнта польскай **«Gazety Wyborczej» Андрэя Пачобута** ў сувязі з тым, што да гэтага ён працаваў на замежнае выданне без яе. У 2009 годзе яго пазбавілі акрэдытацыі, пасля чаго ён ажыццяўляў журналісцкую дзейнасць без адпаведнага дазволу МЗС. Акрамя Андрэя Пачобута, акрэдытацыі не атрымаў і фотакарэспандэнт **«Газэты Выборчай»**, які да гэтага часу на Беларусі без акрэдытацыі на замежныя сродкі масавай інфармацыі не працаваў. Сп. Пачобут лічыць, што дзеянні Міністэрства замежных спраў могуць быць абумоўленыя выбарачным падыходам да замежных медыяў, якія крытычна выказваюцца аб палітычнай сітуацыі ў краіне.

**18 лістапада** прадстаўнікі зарэгістраванага ў Польшчы ТАА «Еўрапейскае радыё для Беларусі» атрымалі ў МЗС Беларусі дазвол на афіцыйную працу свайго карэспандэнцкага пункта ў Беларусі яшчэ на 1 год - да 10 лістапада 2011 года.

**19 лістапада** стала вядома, што МЗС Беларусі дазволіў Расійскаму агенцтву міжнароднай інфармацыі **«РИА Новости»** адкрыць у Мінску свой карэспандэнцкі пункт тэрмінам на 1 год.

**12 снежня** стала вядома, што вядомаму шведскаму фотакарэспандэнту **Дзіну Коксу (Dean CK Cox)**, які спецыялізуецца на постсавецкіх краінах, не ўдалося атрымаць акрэдытацыю для асвятлення прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. На падставе адмовы ў акрэдытацыі журналісту не далі візы на ўезд у краіну. Запыт на візу Дзін Кокс накіраваў у МЗС Беларусі загадзя - 4 лістапада. Больш за месяц Дзіну Коксу, абяцалі разабрацца з яго запытам, але ў выніку ў візе адмовілі, прычым без тумачэнняў.

Дзін Кокс супрацоўнічаў з такімі СМІ, як **The Associated Press**, **The New York Times**, **EurasiaNet** and **Bloomberg News.** Сп. Кокс наведваў Беларусь у часе выбараў 2006 года, прыязджаў і летась. Раней праблем з атрыманнем візы ў яго не паўставала.

**17 снежня** на адкрыцці інфармацыйнага цэнтру ЦВК кіраўнік Нацыянальнага прэс-цэнтра **Іван Сакалоўскі** паведаміў, што для працы на прэзідэнцкіх выбарах у інфацэнтры акрэдытаваны 1.025 журналістаў з 50 краін. Паводле яго слоў, 670 журналістаў прадстаўляюць замежныя СМІ, 355 — беларускія. 250 карэспандэнтаў замежных СМІ маюць пастаянную акрэдытацыю ў Беларусі, 410 атрымалі часовую ў МЗС.

## 4.4. Акрэдытацыя журналістаў. Доступ да інфармацыі

**14 студзеня** недзяржаўная грамадска-палітычная **«Газета Слонімская»** паведаміла, што начальнік аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гродзенскага аблвыканкама **Георгій Еўчар** два месяцы не адказвае на афіцыйны пісьмовы запыт аб акрэдытацыі журналістаў **Міколы Канановіча** і **Вольгі Шынкевіч** пры Слонімскім РАУС, а **Хрысціны Марчук** — пры УУС Гродзенскага аблвыканкама.

Запыт на імя Г. Еўчара галоўны рэдактар «Газеты Слонімскай» **Віктар Валадашчук** накіраваў яшчэ 25 лістапада 2009 года, але афіцыйнага адказу супрацоўнікі газеты так і не атрымалі.

**19 студзеня** на працягу працоўнага дня журналісту недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Борисовские новости» Анатолю Мазгову** адмовіліся прадаставіць інфармацыю чыноўнікі адразу некалькіх дзяржаўных установаў. А. Мазгоў збіраў інфармацыю для традыцыйнай рубрыкі «Барысаў: лічбы і факты».

Начальнік Барысаўскага аддзялення па надзвычайных сітуацыях **Васіль Кравец** не даў звестак пра колькасць пажараў, што адбыліся за тыдзень. Загадчык райаддзела аховы здароўя **Уладзімір Рубцоў** адмовіўся паведаміць, колькі людзей звярнулася ў траўмапункт раённай бальніцы. Загадчыца раённага ЗАГСа **Тамара Красоўская** адмовілася прадаставіць інфармацыю пра колькасць шлюбаў і разводаў за тыдзень. Дзеянні барысаўскіх чыноўнікаў галоўны рэдактар «Борисовских новостей» **Анатоль Букас** абскардзіў у мясцовую пракуратуру. **19 лютага** з Барысаўскага райвыканкама прыйшоў адказ ад намесніцы старшыні **Валянціны Шутко**, якая даводзіла, што парушэння заканадаўства аб СМІ не было, паколькі запытаная інфармацыя размяшчаецца на старонках дзяржаўнай раённай газеты **«Адзінства»** і на афіцыйным сайце выканкама.

**8 лютага** ўвечары журналістам, якія асвятлялі грамадзянскую акцыю салідарнаці з палітвязнямі **М. Аўтуховічам** і **У. Асіпенкам** на Кастрычніцкай плошчы г. Мінска, груба перашкаджалі выконваць прафесійныя абавязкі невядомыя людзі ў цывільным. Яны захіналі дэманстрантаў ад журналістаў і закрывалі рукамі камеры апаратараў. Журналісты былі пазбаўленыя магчымасці не толькі пагутарыць з дэманстрантамі, але нават падлічыць іх колькасць. За двума апаратарамі БелаПАН — **Васілём Сямашкам** і **Вольгай Кляшчук** — традыцыйна хадзілі следам па некалькі асобаў у цывільным. Журналісту **Радыё «Свабода» Алегу Груздзіловічу**, які таксама здымаў падзеі на відэа і ў адзін з момантаў адвёў ад аб'ектыву сваёй камеры руку невядомага маладога чалавека ў цывільным, той пагражаў прымяненнем фізічнай сілы. Груба штурхалі і захіналі камеру апаратару інтэрнет-рэсурсу charter97.org. Пры гэтым людзі ў цывільным не прадстаўляліся і не паказвалі ніякіх дакументаў. Супрацоўнікі міліцыі ў форме, якія знаходзіліся на плошчы, на просьбы журналістаў звярнуць увагу на невядомых нападнікаў не рэагавалі. Ва ўсіх журналістаў, якія сутыкнуліся з перашкодамі пры выкананні прафесійных абавязкаў 8 лютага, былі навідавоку журналісцкія пасведчанні — не толькі БАЖаўскія, але і рэдакцыйныя.

**11 лютага** карэспандэнту недзяржаўнага інфармагенцтва БелаПАН **Анатолю Гатоўчыцу** і незалежнаму журналісту **Алегу Ражкову** не дазволілі ўвайсці ў памяшканне суда Савецкага раёна Гомеля з-за наяўнасці пры іх тэле- і фотаапаратуры. Інцыдэнт здарыўся перад пачаткам адкрытага судовага паседжання па справе прызыўніка Яўгена Якавенкі, які нібыта ўхіляўся ад службы ў войску. Старшыня суда **Аляксандр Кострыкаў**, якому А. Гатоўчыц патэлефанаваў з вестыбюля будынку суда, назваў дзеянні ахоўнікаў правільнымі і патлумачыў, што міліцыянты дзейнічалі на падставе інструкцыі, паводле якой «…забараняецца дапускаць у будынак суда асоб з фота- і відэаапаратурай без узгаднення са старшынём суда альбо яго намеснікам». У выніку А. Гатоўчыцу дазволілі прайсці ў залу суда толькі пасля таго, як ён пакінуў свой фотаапарат на ўваходзе А. Ражкову (камер для захоўвання рэчаў у памяшканні суда няма). «Гэтая інструкцыя парушае нормы аб галоснасці судовай вытворчасці, вызначаныя Грамадзянска-працэсуальным і Крымінальна-працэсульным кодэксамі», — пракаментаваў інцыдэнт намеснік старшыні БАЖ, юрыст **Андрэй Бастунец**.

**14 лютага** карэспандэнта **Радыё «Свабода»**, які асвятляў вулічную моладзевую акцыю ў цэнтры Мінска ўвечары 14 лютага, прымусілі выдаліць фотаздымак, на які трапіў міліцэйскі аўтазак. Міліцыя патлумачыла сваё патрабаванне тым, што «нельга здымаць службовы аўтатранспарт». Акцыю жорстка разагналі.

**10 сакавіка** журналісты недзяржаўных СМІ (**«Новага часу»**, **«Народнай волі»**, **«Радыё Свабода»**, **«Радыё Рацыя»** і інш). Не змаглі трапіць на слуханне справы ваўкавыскіх прадпрымальнікаў **Мікалая Аўтуховіча** і **Уладзіміра Асіпенкі**, якое адбывалася ў Вярхоўным судзе. Перад пачаткам пасяджэння супрацоўніца Вярхоўнага суда паведаміла, што зала на 70 месцаў запоўненая цалкам. Журналістам, якія ўсё ж прайшлі на суд, можна было весці здымкі толькі да пачатку судовага працэсу. Пасля

пачатку слуханняў суддзя выдаліла з залы фотакарэспандэнтаў і здымачныя групы, задаволіўшы хадайніцтва аднаго з падсудных — жыхара Ваўкавыска **Аляксандра Ларына** (акрамя Аўтуховіча і Асіпенкі, па справе праходзілі сп. Ларын, а таксама **Міхаіл Казлоў**).

**25 сакавіка** карэспандэнтку недзяржаўнай рэгіянальнай грамадска-палітычнай газеты **«Intex-press» Людмілу Стэцко** не пусцілі на пасяджэнне Баранавіцкай гарадской тэрытарыяльнай выбарчай камісіі, а таксама не прадаставілі інфармацыі пра зарэгістраваных кандыдатаў. У рэдакцыю «ІР» патэлефанаваў старшыня Баранавіцкай гарадской тэрытарыяльнай камісіі **Юрый Шэсцернеў** і сказаў, каб карэспандэнты не прыходзілі на пасяджэнне камісіі. Чыноўнік заявіў, што, паводле заканадаўства, на падвядзенні вынікаў рэгістрацыі кандыдатаў журналісты не маюць права прысутнічаць. Ён адмовіўся гутарыць з журналісткай па тэлефоне і пасля пасяджэння, і на наступны дзень. **26 сакавіка** Людміла Стэцко датэлефанавалася да сакратара Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў **Мікалая Лазавіка**. Той пацвердзіў, што правы журналіста былі парушаныя.

**6 красавіка** недзяржаўнае рэгіянальнае выданне «Бобруйский курьер» паведаміла, што ўсё часцей сутыкаецца з адмовамі ў прадастаўленні інфармацыі ад супрацоўнікаў дзяржаўных устаноў. Паводле галоўнага рэдактара газеты Анатоля Санаценкі, строгае ўказанне на гэты конт паступіла прадстаўнікам ведамстваў з Бабруйскага гарвыканкама. Пад забарону трапіла нават інфармацыя пра прафілактыку дарожна -транспартных здарэнняў і надзвычайных сітуацый.

**23 красавіка** стала вядома, што старшыня Ганцавіцкай раённай тэрытарыяльнай выбарчай камісіі **Аляксандр Сімага** і сябра раённай выбарчай камісіі **Наталля Маляўка** адмовіліся адказваць на пытанні карэспандэнткі недзяржаўнай газеты **«Ганцавіцкі час» Ірыны Дамарацкай**. Журналістка цікавілася колькасцю кандыдатаў у сельскія Саветы дэпутатаў у Ганцавіцкім раёне, а таксама аб'ёмам сродкаў на іх агітацыю. Спн. Маляўка са параіла журналістцы шукаць тлумачэння ў Цэнтральнай выбарчай камісіі і ў друкаваных выданнях.

**25 красавіка** – у дзень выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў - старшыня выбарчай камісіі мінскага ўчастку для галасавання № 75 разам са сваімі падначаленымі забараніла карэспандэнту "Еўрапейскага радыё для Беларусі" **Валеру Руселіку** здымаць фота і відэа на ўчастку. Калі журналіст пачаў спасылацца на заканадаўства, старшыня камісіі выклікала міліцыянтаў, якія вывелі журналіста з участка. Сакратар ЦВК **Мікалай Лазавік**, каментуючы гэты выпадак, адназначна заняў пазіцыю журналіста і паабяцаў разабрацца.

Таксама ў дзень выбараў на 19-м участку мінскай выбарчай акругі № 30 у памяшканні гімназіі № 33 супрацоўнікі міліцыі затрымалі журналіста недзяржаўнай газеты «Белорусы и рынок» Вадзіма Александровіча. Інцыдэнт адбыўся ў раёне 20.00, калі журналіст здымаў на фотаапарат у рэжыме відэа працэс падліку галасоў. Затрыманне правёў намеснік начальніка Фрунзенскага РУУС Уладзіслаў Спірын на просьбу дырэктаркі гімназіі № 33 Аксаны Якубоўскай. Журналіста адвезлі ў РУУС Фрунзенскага раёна, дзе ў яго адабралі мабільны тэлефон, узялі пісьмовыя тлумачэнні без складання пратаколу, а каля 23.00 адпусцілі.

У Наваполацку **25 красавіка** не дапусцілі на выбарчы ўчастак і на абвяшчэнне вынікаў галасавання журналіста **Аляксандра Муждабаева**. Старшыня Наваполацкай гарадской выбарчай камісіі **Пётр Гусараў** заявіў, што на выбарах «прэсы дастаткова», і што «ўсю інфармацыю можна атрымаць з афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі.

Акрамя таго, журналістам з відэакамерай зацікавілася мясцовая міліцыя ў той момант, калі ён вырашыў зрабіць апытанне на вуліцах горада наконт удзелу мясцовых

жыхароў у выбарах. Праваахоўнікі настойліва параілі Муждабаеву не праводзіць здымкаў.

**12 мая** на пачатак судовага працэсу над грамадскім актывістам **Сяргеем Каваленкам**, які адбываўся ў судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска, не дапусцілі рэдактара сайта **«Народныя навіны Віцебска» Сержука Серабро** і тэлежурналіста **Уладзіслава Стараверава**. Дзяжурны міліцыянт заявіў, што трэба атрымаць адмысловы дазвол старшыні суда на пранос у судовую залу фота- і відэа-апаратуры.

**14 мая** Сяржук Серабро з гэтай жа прычыны не змог патрапіць на абвяшчэнне прысуду па крымінальнай справе Сяргея Каваленкі. Дзяжурны міліцыянт зноў заявіў журналісту, што дазвол на праход у будынак з фотаапаратам дае старшыня суду. Але зварот да старшыні нічога ня даў: Сяргею Серабро давялося застацца ў холе.

**12 мая** стала вядома, што журналістаў недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Информ-прогулка»** не запрасілі на прыём з нагоды Дня друку і работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі, які ладзіў старшыня Лунінецкага райвыканкама **Васіль Агіевіч**. Пра тое, што ўрачыстае мерапрыемства адбылося, а прыём “выйшаў за межы афіцыйнага і ператварыўся ў своеасаблівую прэс-канферэнцыю», рэдакцыя «ИП» даведалася з публікацыі ў мясцовай дзяржаўнай газеце **«Лунінецкія навіны».**

**13 мая** супрацоўнікі недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер»** таксама паведамілі, што на ўрачыстасць, прымеркаваную да Дня друку і Дня работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі, у Бабруйскі гарвыканкам запрасілі прадстаўнікоў усіх мясцовых СМІ, акрамя «Бобруйского курьера». «БК» пазбаўлены акрэдытацыі ў Бабруйскім гарвыканкаме з 2004 года і з тых часоў адчувае цяжкасці ў доступе да інфармацыі, распаўсюдзе і рэкламе.

**18 мая** ў Гомелі падчасператрусу ў кватэры праваабаронца **Юрыя Варонежцава** супрацоўнікі міліцыі перашкаджалі журналістам здымаць момант вынасу з памяшкання забраных рэчаў. Усе пяць гадзін, што доўжыўся ператрус, журналісты прастаялі на лесвічнай пляцоўцы ля кватэры Варонежцава — у кватэру іх не пусцілі і на пытанні не адказвалі. Ператрус праводзілі супрацоўнікі УУС Гомельскага аблвыканкама.

**5 чэрвеня** ў віцебскім аэрапорце супрацоўнікі міліцыі перашкодзілі журналісту **Сяргею Серабро** прысутнічаць на прэсавай канферэнцыі Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Кірыла. Святар ляцеў у Віцебск, каб адтуль скіравацца з візітам у Смаленскую вобласць аўтатранспартам. Планавалася, што ў аэрапорце ён адкажа на пытанні журналістаў. С. Серабро, як і іншыя супрацоўнікі СМІ, прыехаў у аэрапорт загадзя, дзе яго затрымалі супрацоўнікі міліцыі і загадалі прайсці ў службовую машыну. Паказанае пасведчанне карэспандэнта БелаПАН не паўплывала, і, пакуль ішла прэс-канферэнцыя, журналіст мусіў знаходзіцца пад вартай у міліцэйскім аўто, а потым яго адвезлі ў Віцебск на аўтобусе разам з работнікамі аэрапорта.

**11 чэрвеня** стала вядома, што старшыня Лунінецкага раённага спажывецкага таварыства **Максім Сумар** адмовіўся даць інфармацыю карэспандэнтцы недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Информ-прогулка» Таццяне Качаноўскай**. Журналістка цікавілася, па якім кошце сёлета будуць прымаць клубніцы ў насельніцтва дзяржаўныя нарыхтоўшчыкі. У адказ чыноўнік заявіў, што ніякай інфармацыі «Информ-прогулке» ён не дасць, бо ўсе неабходныя звесткі будуць надрукаваная ў дзяржаўнай раённай газеце.

**14 ліпеня** гомельскім журналістам **Алегу Ражкову** і **Таццяне Бублікавай**, якія рыхтавалі відэасюжэт пра анамальную спёку, не дазволілі рабіць здымкі ў калідоры Гомельскай гарадской лякарні хуткай меддапамогі. Таксама адказны тэрапеўт лякарні **Вольга Маісеенка** адмовілася даць каментар на тэму, спаслаўшыся на неабходнасць атрымаць дазвол начальства. «Мы прасілі даць простыя парады для людзей:

як выжываць, калі на вуліцы амаль 35 градусаў спёкі, — зазначыла Таццяна Бублікава. - У каментары не магло быць ніякай палітыкі ці крыміналу. Але медыка гэта не цікавіла, як і нашы журналісцкія пасведчанні. Відавочна доктар проста баялася без начальства камунікаваць з журналістамі».

**21 ліпеня** супрацоўніца Магілёўскай абласной пракуратуры адмовілася даць карэспандэнту недзяржаўнай газеты “Бобруйский курьер” інфармацыю, спасылаючыся на адсутнасць у газеты акрэдытацыі. Журналіст «БК» **Яўген Васьковіч** звярнуўся ў абласную пракуратуру, каб удакладніць звесткі пра крымінальную справу, распачатую супраць двух бабруйчан па падазрэнні ў забойстве пенсіянера. Старшы памочнік пракурора Магілёўскай вобласці **Ала Кузняцова** адмовілася прадаставіць якую-кольвек інфармацыю, спасылаючыся на адсутнасць у «БК» «спецыяльнай» акрэдытацыі”. Журналісту прапанавалі прыехаць у Магілёў («Бобруйский курьер» знаходзіцца ў Бабруйску) і аформіць “акрэдытацыю”.

**3 жніўня** карэспандэнту “Нашай Нівы” Змітру Панкаўцу не дазволілі прысутнічаць на чарговым пасяджэнні Рады інтэлігенцыі. Кіраўнік Рады **Уладзімір Колас**, якому журналіст патэлефанаваў па дазвол, катэгарычна адмовіў.

«Пасля тых брудных інсінуацый, што вы надрукавалі пра Раду інтэлігенцыі, нічога супольнага мець з вамі не хочам. Вы і так ужо ведаеце, што напішаце. Наша справа - каго пускаць на пасяджэнне, а каго не», — заявіў У. Колас.

**23 жніўня** стала вядома, што чыноўнікі ўпраўлення адукацыі Баранавіцкага гарвыканкама сістэматычна ігнаруюць не толькі вусныя, але і пісьмовыя запыты журналістаў недзяржаўнай мясцовай газеты “**Intex-press**”. Яшчэ **8 ліпеня** на імя намесніцы начальніка ўпраўлення Марыі Светлаковай былі дасланыя пытанні датычна беларускамоўнай адукацыі ў горадзе. Аднак адказ у рэдакцыю не прыйшоў нават праз месяц, як гэтага патрабуе заканадаўства. Каб высветліць лёс запыту, карэспандэнт IP Алесь Гізун патэлефанаваў чыноўніцы і пачуў, што адказ перададзены ў аддзел ідэалогіі гарвыканкама. Кіраўніца аддзелу ідэалогіі Таццяна Жытко ў тэлефоннай размове сказала, што чула пра гэтыя пытанні, але пакуль імі не займалася, і папрасіла патэлефанаваць заўтра. На наступны дзень спн. Жытко заявіла, што ніякага запыту ёй ніхто не перадаваў. Алесь Гізун звярнуўся да начальніка ўпраўлення адукацыі Мікалая Хітрыка, але той, у сваю чаргу, спаслаўся на занятасць і прапанаваў журналісту пры жаданні пакінуць скаргу ў Кнізе водгукаў.

**23 жніўня** стала вядома, што старшыня Магілёўскага аблвыканкама **Пётр Руднік** не адказвае на пісьмовыя звароты рэдактара недзяржаўнага рэгіянальнага выдання **«Бобруйский курьер»**. Анатоль Санаценка ўжо двойчы (у сакавіку і чэрвені 2010 года) звяртаўся з лістамі да кіраўніка вобласці, але адказу не атрымаў ні на адзін. Па інфармацыі «БК», на нарадзе ідэалагічных работнікаў горада ў чарговы раз было абʼяўлена пра забарону перадаваць недзяржаўнаму выданню якую-кольвек інфармацыю ад розных дзяржаўных ведамстваў, у тым ліку ад МНС, УУС, ДАІ.

«Такім чынам, кіраўніцтва ідэалагічнай вертыкалі пазбаўляе чытачоў грамадска-важнай інфармацыі — пра пажары, дарожна-транспартныя здарэнні, вышук злачынцаў і г.д. Між тым, самі гэтыя ведамствы зацікаўлены ў распаўсюдзе такой інфармацыі», — кажа галоўны рэдактар выдання А. Санаценка.

24 верасня **стала вядома, што недзяржаўнай газеце “Наша Ніва” не далі акрэдытацыі на асвятленне рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2010”. Спачатку ў тэлефоннай размове з кіраўніком рэдакцыі Андрэем Скурко арганізатары** «Дажынак» **казалі, што не могуць знайсці акрэдытацыю. Пасля перателефанавалі і паведамілі, што газета “не акрэдытаваная”.**

**4 кастрычніка** начальнік ідэалагічнага аддзела Нясвіжскага райвыканкама **Аляксандр Карнюшкін** падчас тэлефоннай размовы з намеснікам галоўнага рэдактара газеты **«Нясвіжскі час» Ігарам Еўтухам** заявіў, што нясвіжскія ўлады працуюць толькі з дзяржаўнай прэсай.Сп. Еўтух тэлефанаваў ідэолагу, каб даведацца падрабязнасці візіту ў Нясвіж міністра культуры Літвы Арунаса Гелунаса.

**19 кастрычніка** групе назіральнікаў "Праваабаронцы за свабодныя выбары"стала вядома, што ў Мінску на паштовыя аддзяленні паступіў загад, падпісаны намесніцай дырэктара РУП **«Белпошта»**. Згодна з гэтым дакументам, супрацоўнікам паштовых аддзяленняў забаронена даваць інтэрв'ю любым СМІ і «разгалошваць» падзеі, якія адбываюцца на пошце. Назіральнікі не выключаюць, што такі крок кіраўніцтва «Белпошты» наўпрост звязаны з прэзідэнцкімі выбарамі.

19 кастрычніка стала вядома, што беларускіх і замежных журналістаў не дапусцяць асвятляць міжнародную канферэнцыю "Нафтаперапрацоўка і экспарт нафтапрадуктаў Рэспублікі Беларусь", якая праходзіла 16-17 лістапада ў Мінску. Спачатку арганізатары запрасілі прадстаўнікоў СМІ, аднак напярэдадні канферэнцыі журналістам было адмоўлена ў акрэдытацыі. Арганізатарам канферэнцыі выступіла брытанская кампанія Confidence Capital Ltd пры падтрымцы ЗАТ "Беларуская нафтавая кампанія". Удзел у мерапрыемстве прымалі больш за сто прадстаўнікоў нафтавых кампаній, у тым ліку сусветнага ўзроўню. Па інфармацыі ад кампетэнтнай крыніцы, з ініцыятывай не дапускаць на канферэнцыю журналістаў выступіў канцэрн "Белнафтахім".

**25-27 кастрычніка** журналісты як недзяржаўных, так і дзяржаўных СМІ сутыкнуліся з адмовамі ў інфармацыі пра выбух на мэблевай фабрыцы "Пінскдрэў". У той жа час ні 25, ні 26 кастрычніка ніхто з чыноўнікаў Пінскага гарвыканкама ці санітарнай службы горада не звярнуўся афіцыйна да гараджан, каб паінфармаваць іх пра стан навакольнага асяроддзя ў звязку з аварыяй. Пасля выбуху тэрыторыя прадпрыемства была ачэпленая міліцыянтамі, супрацоўнікі КДБ у цывільным загадвалі адганяць мінакоў, не пускалі таксама і журналістаў. У прыватнасці, 26 кастрычніка міліцыянты загадалі пакінуць тэрыторыю супрацоўнікам дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Пінск»і газеты «Пінскі веснік». У гэты ж дзень **«Еўрапейскае радыё для Беларусі»** не змагло атрымаць каментара ад **Віктара Сірэнкі** — галоўнага лекара Мінскай гарадской лякарні хуткай дапамогі, куды накіравалі каля двух дзесяткаў пацярпелых ад выбуху. Па яго словах, лекары не даюць каментароў, бо не атрымалі адпаведнага дазволу ад Мінздароўя. Сп. Сірэнка заявіў таксама, што ён ужо адмовіў у каментарах дзяржаўным тэлеканалам — БТ, СТВ, АНТ.

**28 кастрычніка** суддзя Кастрычніцкага райсуда Віцебска не дазволіла мясцоваму журналісту агенцтва БелаПАН Сяргею Серабро рабіць фотаздымкі ў часе працэсу над хуліганам, які абражаў удзельнікаў пікетаў па зборы подпісаў за патэнцыйных кандыдатаў ад апазіцыі. Сам падсудны Аляксандр Гайдукоў паводзіў сябе агрэсіўна ў дачыненні да рэпарцёраў, якія спрабавалі фатаграфаваць яго да пачатку пасяджэння.

**4 лістапада** стала вядома, што рэдактар недзяржаўнай газеты «УзГорак» (г. Горкі Магілёўскай вобласці) Эдуард Брокараў не можа атрымаць ад мясцовых уладаў інфармацыі пра колькасць сабраных у гэтым рэгіёне подпісаў за кандыдатаў. У інфармацыі адмаўлялі загадчыца арганізацыйнага аддзела Горацкага райвыканкама Кацярына Кароткіна і намеснік старшыні Дрыбінскага райвыканкама Аляксандр Лук'янчык. У кастрычніку спн. Кароткіна таксама адмовілася паведаміць Э. Брокараву персанальны склад раённай выбарчай камісіі.

**24 лістапада** карэспандэнтку недзяржаўнай газеты "Народная воля" Марыю Малевіч не прапусцілі ў Палац рэспублікі на прэс-канферэнцыю выканаўцаў класічнай музыкі - удзельнікамі канцэртнай праграмы "Незабыўны вечар Bel canto". Не

дапамагло і тое, што журналістка загадзя акрэдытавалася ў прэс-цэнтры.Супрацоўніца прэзідэнцкага аркестра РБ, якая катэгарычна адмовілася назваць сваё імя, не дазволіла Марыі Малевіч разам з іншымі журналістамі прайсці ў памяшканне, дзе мусіла адбыцца сустрэча. Яна заявіла, што не пускаць "Народную волю" – распараджэнне кіраўніцтва.

**19 снежня** – у дзень выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – карэспандэнтаў газеты "**Intex-press"** 40 хвілін не пускалі на выбарчы ўчастак, размешчаны на тэрыторыі вайсковай часткі ў Баранавічах. Спачатку намеснік камандзіра часткі па ідэалагічнай працы Цімур Дудкін патрабаваў ад карэспандэнтаў Алеся Гізуна і Людмілы Пракопавай акрэдытацыю пры Міністэрстве абароны, потым – акрэдытацыю пры акружной камісіі. Сітуацыю удалося ўрэгуляваць толькі пасля звароту ў гарадскую выбарчую камісію.

**20 снежня** ў Мінску супрацоўнікі дзяжурнай службы КДБ не давалі ніякай інфармацыі журналістам пра месцазнаходжанне затрыманых у ноч з 19 на 20 снежня журналістаў, кандыдатаў у прэзідэнты і грамадскіх актывістаў. На спробу прэс-службы ГА «БАЖ» высветліць, дзе ўтрымліваюцца сябры арганізацыі (у прыватнасці, **Наталля Радзіна**, **Сяргей Вазняк** і **Аляксандр Фядута**) дзяжурны сказаў, што нічога паведаміць на гэты конт не можа, і ніякіх дадатковых тэлефонаў, па якіх можна было б удакладніць гэтую інфармацыю, не дасць.

Нагодай для звароту стала абрывістая інфармацыя, якая паступала ад саміх затрыманых і іх сем'яў уначы з 19 на 20 снежня, і адсутнасць якіх-кольвек іншых звестак.

У офіс сайта charter97.org ноччу ўварваўся спецназ. Журналісты паспелі паінфармаваць пра напад, пасля чаго сувязь была перапыненая. У памяшканні працавалі рэдактарка Наталля Радзіна і валанцёры. Апошняе паведамленне ад Радзінай было — «Мы ў КДБ усе».

Сяргея Вазняка затрымалі ўначы ў яго ўласнай кватэры. Па звестках ад сына затрыманага, у кватэру прыходзілі людзі, якія назваліся супрацоўнікамі КДБ і сказалі, што затрымліваюць С. Вазняка ў межах нейкай крымінальнай справы. Ні сям'я, ні калегі не ведалі яго месцазнаходжання.

Раніцай 20 снежня дадому да актывіста кампаніі «Гавары праўду» Аляксандра Фядуты прыйшлі некалькі чалавек у цывільным, якія «запрасілі» яго на гутарку ў КДБ. Пазней жонка сп-ра Фядуты ў гутарцы з прэс-службай БАЖ паведаміла, што яе мужа затрымалі прынамсі на трое сутак.

## 4.5. Парушэнні правоў журналістаў падчас выбараў і ў паслявыбарны перыяд

**19 снежня** адбыліся выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Яшчэ да закрыцця выбарчых участкаў пацярпелі некалькі журналістаў беларускіх і замежных СМІ. Гэта адбылося падчас нападу прадстаўнікоў сілавых структур на кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева і яго прыхільнікаў з мэтай забраць у іх гукаўзмацняльную апаратуру. Прысутныя пры гэтым журналісты былі збітыя, у іх пашкодзілі і адабралі фота- і відэакамеры, не звяртаючы ўвагі на журналісцкія пасведчанні.

Затрыманні і збіццё журналістаў працягваліся пасля акцыі пратэсту 19 снежня і пазней. Па інфармацыі ГА “БАЖ”, у гэты і наступныя дні як мінімум 27 журналістаў былі затрыманыя, 21 пацярпеў фізічна ад рук сілавікоў. 13 журналістаў былі асуджаныя на адміністратыўны арышт на тэрмін ад 10 да 15 сутак. Сямёра журналістаў і сябраў ГА “БАЖ” абвінавачваюцца ў крымінальным злачынстве – арганізацыі масавых беспарадкаў і ўдзеле ў іх (арт. 293 Крымінальнага кодэксу “Масавыя беспарадкі”).

## ЗАТРЫМАНЫЯ (З УЛІКАМ ТЫХ, ХТО ЎТРЫМЛІВАЎСЯ Ў СІЗА КДБ, АСУДЖАНЫХ НА СУТКІ, А ТАКСАМА АДПУШЧАНЫХ):

1. **Ірына Халіп**, «Новая газета» (Расія), жонка экс-кандыдата Андрэя Саннікава, сябра БАЖ. Затрымана ўвечары 19 снежня па дарозе з плошчы Незалежнасці. Знаходзілся ў СІЗА КДБ да вечара 29 студзеня, зменена мера стрымання на падпіску аб нявыездзе з хатнім арыштам. Прад’яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). Паводле ч.1 (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагрозамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці, узброеным супрацівам прадстаўнікам улады) пагражае тэрмін ад 5 да 15 гадоў зняволенне, паводле ч.2 (удзел у масавых беспарадках, які выявіўся ў непасрэдным здзяйсненні таго, што названа ў ч.1) — ад 3 да 8 гадоў.

2. **Наталля Радзіна**, рэдактарка сайта «Хартыя-97», сябра БАЖ». Спачатку была збітая на плошчы Незалежнасці ў часе масавай акцыі 19 снежня, у ноч на 20 снежня затрымана ў офісе сайта charter97.org і дастаўлена ў СІЗА КДБ, дзе знаходзілася да вечара 28 студзеня. Вызвалена пад падпіску аб нявыездзе, з 30 студзеня знаходзіцца па месцы рэгістрацыі — у Кобрыне. Прад’яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). Пагражае да 15 гадоў зняволення.

3. **Сяргей Вазняк**, рэдактар газеты «Товарищ», актывіст штабу Уладзіміра Някляева, сябра Праўлення БАЖ. Затрыманы ў ноч на 20 снежня ва ўласнай кватэры, знаходзіўся ў СІЗА КДБ да вечара 29 студзеня. Вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Прад’яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). Пагражае да 15 гадоў зняволення.

4. **Аляксандр Фядута**, актывіст штабу Уладзіміра Някляева, журналіст, сябра БАЖ. Затрыманы ў ноч на 20 снежня ва ўласнай кватэры. Знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Прад’яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). Пагражае да 15 гадоў зняволення.

5. **Дзмітрый Бандарэнка**, актывіст штабу А. Саннікава, сябра ГА «БАЖ». Затрыманы раніцай 20 снежня ва ўласнай кватэры. Знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Прад’яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). Пагражае да 15 гадоў зняволення.

6. **Павел Севярынец**, актывіст штабу Віталя Рымашэўскага, сябра Рады ГА «БАЖ». Быў затрыманы 19 снежня пасля заканчэння акцыі на плошчы

Незалежнасці. Знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Прад'яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). Пагражае да 15 гадоў зняволення.

7. **Аляксандр Атрошчанкаў** — прэс-сакратар Андрэя Саннікава. Затрыманы раніцай 20 снежня ва ўласнай кватэры. Знаходзіўся ў СІЗА КДБ, у сакавіку 2011 года асуджаны на 4 гады турмы ўзмоцненага рэжыму за ўдзел у масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК РБ).
8. **Таццяна Бублікава**, незалежная журналістка, сябра БАЖ. Суд Кастрычніцкага раёна 20 снежня даў ёй 10 сутак арышту, хаця яна **прызнала сваю віну** і павінна была атрымаць 0,5 базавай велічыні паводле арт. 6.5 КаАП. Знаходзілася ў СІЗА Мінскага раёна, выйшла на волю 29 снежня.
9. **Зміцер Саўка**, сябра БАЖ, лінгвіст, незалежны журналіст. Асуджаны 20 снежня на 15 сутак арышту, утрымліваўся ў СІЗА ў Жодзіна. Выйшаў на волю 3 студзеня.
10. **Цімафей Каспяровіч**, незалежны журналіст. Быў асуджаны 20 снежня судом Партызанскага раёна на 12 сутак. Знаходзіўся на Акрэсціна. Выйшаў на волю 31 снежня.
11. **Ілля Кузняцоў**, незалежны журналіст, сябра БАЖ. Асуджаны 20 снежня на 15 сутак у судзе Фрунзенскага раёна, утрымліваецца на Акрэсціна. Выйшаў на волю 3 студзеня.
12. **Юлія Рымашэўская**, прэс-сакратар Уладзіміра Някляева, сябра БАЖ. У судзе Першамайскага раёна Мінска асуджаная 20 снежня на 13 сутак арышту. Утрымлівалася ў СІЗА Мінскага раёна на вул. Скарыны, 20. Выйшла на волю 1 студзеня.
13. **Яўген Васьковіч**, сябра ГА «БАЖ», карэспандэнт газеты «Бобруйский курьер». 12 сутак адміністратыўнага арышту, утрымліваюць на Акрэсціна. Пацвердзілі сваякам у ГУУС Мінгарвыканкама. Выйшаў на волю 31 снежня.
14. **Ян Лагвіновіч**, сябра ГА «БАЖ», незалежны журналіст, Маладзечна (бюлетэнь «За Маладзечна»). Быў затрыманы 19 снежня ў Мінску. У яго была пашкоджаная галава і зламаная рука. АДБЫЎ 10 сутак адміністратыўнага арышту на Акрэсціна. Выйшаў на волю 29 снежня.
15. **Вольга Чарных**, былая студэнтка журфака БДУ, цяпер — студэнтка журфака Ягелонскага універсітэта (Кракаў), дапамагала ў працы групе польскага тэлеканала TVN24, якая асвятляла мінскія падзеі 19 снежня. Была асуджана на 12 сутак, якія адбыла ў ізалятары на вул. Скарыны, 20. Выйшла на волю 31 снежня.
16. **Руслан Ігнатовіч**, пазаштатны карэспандэнт газеты «Прессбол», студэнт 2 курса Інстытута журналістыкі БДУ. Адбыў 10 сутак арышту на акрэсціна, выйшаў на волю 29 снежня.
17. **Аляксей Шэін**, сябра ГА «БАЖ». На 12 сутак асуджаны судом Савецкага раёна, утрымліваўся на Акрэсціна. Выйшаў на волю 31 снежня.
18. **Андрэй Пачобут**, незалежны журналіст, польская «Gazeta Wyborcza», неакрэдытаваны, сябра БАЖ. Быў вызвалены ўвечары 20 снежня. Суд Кастрычніцкага раёна палічыў, што доказаў яго віны недастаткова, і накіраваў справу на дапрацоўку. Але 13 студзеня суд Кастрычніцкага раёна Мінска аштрафаваў журналіста на 1 млн. 750 тысяч рублёў (каля 600 долараў ЗША)

па той жа справе — паводле ч. 3 арт. 23.34 КаАП («Парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства»). Пракуратура Кастрычніцкага раёна абскардзіла рашэнне, бо палічыла пакаранне занадта «мяккім». 28 студзеня Мінскі гарадскі суд адмяніў рашэнне суда ад 13 студзеня і накіраваў справу на перагляд. 11 лютага суддзя Кастрычніцкага райсуда Наталля Пратасавіцкая пастанавіла пакараць Пачобута адміністратыўным арыштам на 15 сутак.

19. **Кастусь Лашкевіч**, журналіст TUT.by, сябра БАЖ. Быў у Маскоўскім РУУС, адпусцілі раніцай 20 снежня.
20. **Аляксандр Уладыка**, незалежны журналіст. Быў у Маскоўскім РУУС, адпусцілі раніцай 20 снежня.
21. **Вадзім Заміроўскі**, «Белгазета». Быў на Акрэсціна, адпусцілі раніцай, але забралі флэш-карту фотаапарата.
22. **Марыя Антонава**, журналістка «Франс Прэс», Масква. 20 снежня была адпушчаная на волю, вярнулася ў Расію.
23. **Аляксандр Астаф'еў**, Санкт-Пецярбург, газета «Мой район». 22 снежня вызвалілі.
24. **Дзмітрый Іваноў**, выданне «Национальный контроль» (Расія). Як **паведаміў «Інтэрфакс»**, быў затрыманы 18 снежня ўвечары і дастаўлены ў РУУС Заводскага раёна для высвятлення асобы. Пазней адпушчаны.
25. **Максім Пятровіч**, выданне «Национальный контроль» (Расія). Быў затрыманы 18 снежня ўвечары і дастаўлены ў РУУС Заводскага раёна для высвятлення асобы. Пазней адпушчаны.
26. **Зміцер Галко** (Будзімір), пазаштатны карэспандэнт Радыё «Свабода». Быў асуджаны 20 снежня ў Ленінскім судзе Мінска на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Утрымліваўся ў Жодзінскім СІЗА, выйшаў на волю 29 снежня.
27. **Барыс Гарэцкі** — карэспандэнт Радыё «Рацыя» ў Беларусі. Быў затрыманы 17 студзеня — амаль праз месяц пасля падзеяў на Кастрычніцкай плошчы, калі браў каля будынку КДБ інтэрв'ю ў сваякоў вязняў СІЗА, што стаялі ў чарзе з перадачамі. 18 студзеня асудзілі на 14 сутак арышту па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі 19 снежня. 10 лютага атрымаў папярэджанне пракуратуры за дзейнасць на карысць замежнага СМІ без акрэдытацыі.

Трое валанцёраў сайта «Хартыя-97» таксама былі затрыманыя ў рэдакцыі рэсурсу разам з Н. Радзінай, асуджаныя па арт. 23.34 КаАП (арганізацыя альбо ўдзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах). Адбывалі пакаранне ў Цэнтры ізаляцыі правапарушэнняў у Жодзіна. Іх імёнаў не называюць.

## ПАЦЯРПЕЛІ ФІЗІЧНА:

1. **Алег Груздзіловіч**, Радыё «Свабода», акрэдытаваны ў Беларусі. Пацярпеў ад міліцыянтаў у часе акцыі 19 снежня на плошчы Незалежнасці. Паведаміў, што быў павалены на зямлю, збіты нагамі, яму пашкодзілі відэакамеру (адламалі мікрафон).
2. **Андрэй Лянкевіч**, вядомы беларускі фатограф, меў пры сабе картку «сталай акрэдытацыі замежнага журналіста» пра МЗС ад нямецкага фотаагенцтва «ЕРА». Быў прымусова пакладзены сілавікамі на снег, калі асвятляў шэсце

прыхільнікаў Някляева на Кастрычніцкую плошчу. Адбылося на вул. Няміга, каля штабу Някляева. Пры гэтым разбілі ўспышку яго фотаапарата, а саму камеру забралі — «для экспертызы». Апаратуру не вярнулі дагэтуль.

3. **Руслан Гарбачоў**, інтэрнэт-газета «Салідарнасць». Супрацоўнікі спецназу накінуліся на карэспандэнта рэсурсу Руслана Гарбачова, сарвалі з яго прэс-карту і нанеслі некалькі ўдараў. Адбылося 19 снежня каля Дома ўраду на плошчы Незалежнасці.

4. **Алена Якжык**, «Салідарнасць». Была прымусова пакладзена сілавікамі на снег, калі асвятляла шэсце прыхільнікаў Някляева на Кастрычніцкую плошчу. Адбылося на вул. Няміга, каля штабу Някляева.

5. **Зміцер Лукашук**, штатны супрацоўнік «Еўрарадыё», афіцыйна акрэдытаваны пры МЗС. Быў прымусова пакладзены сілавікамі на снег, калі асвятляў шэсце прыхільнікаў Някляева на Кастрычніцкую плошчу. Адбылося на вул. Няміга, каля штабу Някляева.

6. **Юлія Дарашкевіч**, штатны супрацоўнік газеты «Наша Ніва». Была прымусова пакладзена сілавікамі на снег, калі асвятляла шэсце прыхільнікаў Някляева на Кастрычніцкую плошчу, у грубай форме, з ужываннем нецэнзурных выразаў, прымусілі прыбраць фотакамеру. Адбылося на вул. Няміга, каля штабу Някляева.

7. **Антон Тарас**, штатны супрацоўнік агенцтва БелаПАН. Быў прымусова пакладзены сілавікамі на снег, калі асвятляў шэсце прыхільнікаў Някляева на Кастрычніцкую плошчу. Адбылося на вул. Няміга, каля штабу Някляева.

8. **Джэймс Хіл**, «The New York Times», афіцыйна акрэдытаваны пры МЗС. (Быў прымусова пакладзены сілавікамі на снег, разам з беларускімі журналістамі, што асвятлялі шэсце прыхільнікаў Някляева на Кастрычніцкую плошчу; па сведчаннях калегаў, атрымаў удар у вока. Адбылося на вул. Няміга, каля штабу Някляева.

9. **Віктар Талочка,** агенцтва БелТА. Агенцтва «Інтэрфакс-Захад» са спасылкай на генеральнага дырэктара БелТА Дзмітрыя Жука **паведаміла**, што В. Талочка «быў змяты натоўпам» пры «спробе штурму будынку Дома ўраду». Паводле Д. Жука, у яго лёгкія цялесныя пашкоджанні і разбітая фотаапаратура. Калегі-фатографы маюць фотаздымкі, якія пацвярджаюць, што Талочка пацярпеў ад рук міліцыі.

10. **Аляксей Мацюшкоў**, фотакарэспандэнт газеты «Обозреватель». Паведаміў, што яму пабілі бліскавіцу фотаапарата. Адбылося на плошчы Незалежнасці 19 снежня.

11. **Юрась Карманаў**, «Associated Press», афіцыйна акрэдытаваны пры МЗС. 19 снежня, калі пачалася «зачыстка» на плошчы Незалежнасці, ён стаяў, накрыўшы галаву рукамі з пасведчаннем навідавоку, і атрымаў шэраг удараў міліцэйскімі дубінкамі па руках і спіне.

12. **Антон Харчанка**, тэлеканал «Russia Today». Як **паведаміла** 20 снежня РИА Новости са спасылкай на прэс-службу RT, атрымаў абшырную гематому ў часе міліцэйскай «зачысткі» на плошчы Незалежнасці 19 снежня.

13. **Віктар Філяеў**, тэлеканал «Russia Today». Як **паведаміла** 20 снежня РИА Новости са спасылкай на прэс-службу RT, атрымаў абшырную гематому ў часе міліцэйскай «зачысткі» на плошчы Незалежнасці 19 снежня.

14. **Язэп Палубятка**, штатны супрацоўнік рэдакцыі газеты «Новы час». Пацярпеў 19 снежня на плошчы Незалежнасці. Дапамагаў збітай з ног дзяўчыне, атрымаў удар па галаве дубінкай і шчытом па скроні. З разбітай галавой яго адвезлі на «хуткай» у шпіталь МУС, дзе яму аказалі першую медыцынскую дапамогу. Мае на руках усе заключэнні медыкаў.
15. **Вольга Хвоін**, штатная супрацоўніца газеты «Новы час». Як паведаміла сама журналістка, 19 снежня на плошчы Незалежнасці міліцыянты яе «пашматалі, за горла ззаду падушылі і выкінулі на праезджую частку».
16. **Алесь Баразенка**, тэлеаператар «Белсат». Пацярпеў у часе асвятлення шэсця прыхільнікаў У. Някляева 19 снежня на Кастрычніцкую плошчу.
17. **Дзмітрый Тархаў**, здымачная група REN-TV. Як **паведаміла** 20 снежня РИА Новости са спасылкай на прэс-службу тэлеканала. Тархава некалькі разоў **ударылі ў жывот.**
18. **Ілля Амельчанка**, здымачная група REN-TV. Як **паведаміла** 20 снежня РИА новости са спасылкай на прэс-службу тэлеканала. Амельчанку **некалькі разоў ударылі, пакачалі ў снезе, пашкодзілі камеру**.
19. **Алена Данэйка**, «Нямецкая хваля». Атрымала ўдар міліцэйскай дубінкай па руцэ, калі здымала падзеі каля Дома ўраду на плошчы Незалежнасці 19 снежня.
20. **Гайнц Цэзарэк**, фотакарэспандэнт аўстрыйскага інтэрнэт-выдання news.at, атрымаў траўму рукі і пералом указальнага пальца ў часе асвятлення акцыі на плошчы Незалежнасці.
21. **Уладзімір Грыдзін**, пазаштатны карэспандэнт БелаПАН. Пацярпеў двойчы: 19 снежня — на прыступках Дома Ураду пры разгоне акцыі на плошчы Незалежнасці, другі раз, 20 снежня, — таксама на плошчы Незалежнасці, пацярпеў ад намесніка начальніка ГУУС Мінгарвыканкама Ігара Яўсеева, які ўдарыў яго нагой.

**20 снежня** Грамадскае аб’яднанне “Беларуская асацыяцыя журналістаў” выказала рашучы пратэст супраць шакавальнага факту прымянення сілы супрацоўнікамі міліцыі ў дачыненні да журналістаў і грамадскіх актывістаў увечары 19 снежня. У заяве, у прыватнасці, гаварылася: “*Праваахоўнікі жорстка збілі нашых калег, пашкодзілі і аднялі іх прафесійную апаратуру, не зважаючы на сапраўдныя журналісцкія пасведчанні. Пры гэтым пацярпелі рэпарцёры беларускіх СМІ і афіцыйна акрэдытаваныя ў краіне замежныя журналісты... Супрацоўнікі праваахоўных органаў не зважалі на журналісцкія пасведчанні, груба і беспадстаўна парушаючы прафесійныя правы нашых калег на бесперашкоднае збіранне інфармацыі”*. ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” патрабавала неадкладнага расследавання ўсіх выпадкаў гвалту супраць журналістаў і перашкодаў для іх прафесійнай дзейнасці, а таксама прыцягнення ўсіх вінаватых да адказнасці.

**20 снежня** пры асвятленні разгону акцыі на плошчы Незалежнасці быў збіты фотажурналіст Уладзімір Грыдзін. Намеснік начальніка ГУУС Мінгарвыканкама Ігар Яўсееў ўдарыў журналіста нагой, паваліўшы ў снег. Гэты момант зафіксавалі на камеру калегі журналіста.

**21 снежня** Мінюст запатрабаваў у ГА “БАЖ” тлумачэнняў адносна папярэдняй заявы арганізацыі з нагоды падзеяў 19 снежня. Міністэрства зацікавілася, на якой падставе ГА “БАЖ” уступілася не толькі за пацярпелых журналістаў, але і за «грамадскіх актывістаў».

**22 снежня** затрымалі, але потым адпусцілі на волю тэлеаператара Алеся Баразенку. Журналіста затрымалі людзі ў цывільным непадалёк ад яго дома, калі ён скіроўваўся здымаць чарговы матэрыял. Аператара даставілі ў РУУС Фрунзенскага раёна, дзе спраўдзілі пашпарт і адпусцілі.

**24 снежня** ГА «БАЖ» звярнулася да міністра юстыцыі, міністра ўнутраных спраў і генеральнага пракурора, заклікаўшы іх звярнуць увагу на шматлікія парушэнні закона, якія мелі месца ў апошнія дні. *«Супрацоўнікі праваахоўных органаў з прымяненнем гвалту перашкаджалі беларускім і замежным журналістам пры ажыццяўленні імі прафесійнай дзейнасці*», — гаварылася ў звароце, які арганізацыя накіравала 24 снежня.

**У гэты ж дзень** каля СІЗА на Акрэсціна затрымалі вольнага журналіста з Гродна Алеся Кіркевіча. Журналіста асудзілі на 10 сутак арышту за ўдзел у пікеце салідарнасці ля сцен СІЗА.

**25 снежня у** адсутнасці супрацоўнікаў адбыўсяператрус у памяшканні "Еўрапейскага радыё для Беларусі". Пра вобшук у рэдакцыі стала вядома з каментара на форуме. Вынеслі камп'ютары, ноўтбукі, сервер, дыктафоны, фотаапараты, партатыўныя відэакамеры – усяго 43 найменні аргтэхнікі.

**25-26 снежня** ўначы невядомыя ўварваліся ў офіс першага незалежнага тэлеканалу «Белсат» у Менску. Яны разрэзалі дзьверы памяшканьня адмысловай пілой. На той момант у памяшканні нікога не было. Журналісты разам з тэхнікай і абсталяваннем выехалі з офіса за некалькі дзён да гэтага.

**28 снежня**ператрус у памяшканні Беларускага ПЭН-Цэнтру, дзе месціцца рэдакцыя газеты "Наша Ніва". Супрацоўнікі КДБ канфіскавалі 12 камп'ютараў, флэш-карткі і CD-дыскі. У гэты ж час адбыўсяператрус на прыватнай кватэры галоўнага рэдактара "Нашай Нівы" Андрэя Скурко. У яго забралі хатні камп'ютар і інш.

Згодна з ордэрам,ператрусы звязаныя з дзвюма крымінальнымі справамі: аб масавых беспарадках і аб знявазе дзяржаўнай сімволікі.

**29 снежня** Міністэрства юстыцыі накіравала ў БАЖ ліст, у якім пацікавілася, хто з журналістаў, за якіх публічна заступаецца арганізацыя, з'яўляецца яе сябрам.

Гаворка ідзе пра зварот БАЖ да міністра юстыцыі, міністра ўнутраных спраў і генеральнага пракурора з просьбай звярнуць увагу на парушэнні правоў журналістаў і прыцягнуць да адказнасці вінаватых. Нагадаем, што афіцыйныя лісты згаданым афіцыйным асобам арганізацыя накіравала 24 снежня.

**30 снежня** адбыўся ператрус у кватэры супрацоўніцы тэлеканалу "Белсат" Кацярыны Ткачэнка. За некалькі гадзін да гэтага яе выклікалі на 31 снежня на допыт у КДБ. У часеператрусу забралі ноўтбук,дыскеты і інш.

**31 снежня** адбыўся ператрус у кватэры фотакарэспандэнткі "Нашай Нівы" Юліі Дарашкевіч і яе мужа, грамадскага актывіста Паўла Юхневіча. Супрацоўнікі КДБ паказалі ордэр на вобшук у межах расследавання крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Мінску вечарам 19 снежня. Вынеслі два ноўтбукі, усе флэшкі, дыктафон, вынасныя вінчэсцеры, дыскі — усяго 15 носьбітаў інфармацыі. Муж Юліі быў затрыманы і асуджаны на 10 сутак арышту.

У той жа дзень адбыўся ператрус у кватэры відэааператара "Нашай Нівы" Таццяны Гаўрыльчык. Падчас вобшуку ў яе забралі відэакамеру, камп'ютар і флэшкі, якія знайшліся ў кватэры.

10 студзеня відэааператарцы «Нашай Нівы» патэлефанавалі з Камітэта дзяржаўнай бяспекі і прапанавалі забраць тэхніку, забраную ў часе вобшуку.

**У 2011 г. парушэнні правоў журналістаў і СМІ, звязаныя з прэзідэнцкімі выбарамі 2010 г., працягваліся.**

# ДАДАТАК: ЗАКЛЮЧЭННЕ ВЕНЕЦЫЯНСКАЙ КАМІСІІ

**(неафіцыйный пераклад; на рускай мове)**

www.venice.coe.int
Страсбург, 12 января 2011
Мнение No. 573/2010
CDL-AD (2010) 053rev
Or.Eng.

**ЕВРОПЕЙСКАЯ КОМИССИЯ ПО** демократии через право (венецианская комиссия)

ЗАКЛЮЧЕНИЕ
ПО ПОВОДУ ПРЕДУПРЕЖДЕНИЯ,
ВЫНЕСЕННОГО БЕЛОРУССКОЙ АССОЦИАЦИИ ЖУРНАЛИСТОВ
13 ЯНВАРЯ 2010 ГОДА
МИНИСТЕРСТВОМ ЮСТИЦИИ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Принято Венецианской Комиссией
на 85й Пленарной Сессии
(Венеция, 17-18 декабря 2010 года)

на основе комментариев
г-на Питера ван ДАЙКА (член Венецианской Комиссии, Нидерланды)
Г-на Кристофа ГРАБЕНВАРТЕРА (член Венецианской Комиссии, Австрия)
Г-н Питера ПАЧОЛАЙ (член Венецианской Комиссии, Венгрия)
Г-жи Хердис ТОРГИРСДОТИР (член Венецианской Комиссии, Исландия)

## I. Введение

1. В своей Рекомендации 1897 (2010)[1],Парламентская Ассамблея Совета Европы (здесь и далее – Парламентская Ассамблея) попросила Венецианскую Комиссию оценить совместимость с "универсальными стандартами по правам человека"[2] официального предупреждения, вынесенного Министерством юстиции Республики Беларусь Белорусской ассоциации журналистов (здесь и далее - БАЖ) 13 января 2010 года.

2. Венецианская Комиссия назначила г-жу Торгирсдотир, г-н ван Дайка, г-на Грабенвартера и г-на Пачолай в качестве докладчиков. Они работали на основе английского перевода предупреждения (CDL (2010) 055) и представили свои индивидуальные комментарии (CDL (2010) 053, CDL (2010) 055, CDL (2010) 054).

3. Для того, чтобы получить более глубокое понимание ситуации, г-н Пачолай и г-жа Мартин, представитель Секретариата, 14 мая 2010 года провели обмен мнениями с г-ном Симоновым, заместителем Министра юстиции, подписавшим предупреждение, а также с г-жой Жанной Литвиной и г-ном Андреем Александровым, соответственно председателем и заместителем председателя БАЖ.

4. Обмен мнениями обеспечил понимание национального контекста.

5. Делегация признательна Конституционному Суду Республики Беларусь за организацию совещания, а также г-ну Ференцу Контра, Чрезвычайному и Полномочному Послу Венгрии в Беларуси, за его помощь и предложение провести обмен мнениями с представителями БАЖ в помещениях Посольства Венгрии.

6. Настоящее заключение было составлено на основе комментариев докладчиков и информации, собранной в ходе обмена мнениями, и было принято на 85-ом пленарном заседании Комиссии (Венеция, 17-18 декабря 2010 года). В ходе сессии Комиссии было сообщено, что будет представлена дополнительная фактическая информация и разъяснения по ситуации в Беларуси. Комиссия поручила докладчикам внести необходимые изменения в текст заключения в свете дополнительной информации, которая была получена 20 декабря 2010 года. На этом основании некоторые незначительные изменения были впоследствии внесены в текст заключения.

---

[1] Обсуждение в Ассамблее 27 января 2010 года (6-е заседание). Текст, принятый Ассамблеей 27 января 2010 года.

[2] Точная формулировка запроса Парламентской Ассамблеи следующая: "14. Ассамблея с озабоченностью отмечает официальное предупреждение Министерства юстиции Республики Беларусь от 13 января 2010 года, вынесенное Белорусской ассоциации журналистов, оспаривающее ее международно признанную деятельность в интересах журналистов, средств массовой информации и свободы СМИ. Ссылаясь на свою Резолюцию 1372 (2004) о преследовании прессы в Республике Беларусь, Ассамблея вновь подтверждает, что свобода СМИ является необходимым условием демократии и требованием для членства в Совете Европы. Ассамблея призывает власти Беларуси не злоупотреблять арбитражными административными регламентами для неправомерного ограничения права на свободу выражения мнений и свободы ассоциаций в соответствии со статьями 19 и 22 Международного пакта о гражданских и политических правах и статьи 10 и 11 Европейской конвенции по правам человека. Поскольку Беларусь является ассоциированным членом Венецианской комиссии, кроме того, Ассамблея просит Венецианскую Комиссию проанализировать соответствие данного предупреждения Министерства юстиции Республики Беларусь универсальным стандартам прав человека".

**Предварительные замечания**

7. Следующее заключение подготовлено с целью оценки соответствия официального предупреждения, вынесенного Министерством юстиции БАЖ "универсальным стандартам прав человека".

8. Оценка данного предупреждения, подготовленная по запросу Парламентской Ассамблеи, может быть важной не только для БАЖ и ее членов, но и в целом для свободы выражения мнения и свободы СМИ в стране. По этой причине настоящее заключение в некоторых аспектах дает более общую оценку соответствующего национального законодательства и его соответствия международным стандартам. Однако оно не является анализом свободы прессы или объединения в стране в целом, так как это выходит за рамки запроса Парламентской Ассамблеи.

## II. Справочная информация и факты

### A. Официальное предупреждение

9. 13 января 2010 года Министерство юстиции вынесло официальное предупреждение (далее "Предупреждение"), Белорусской ассоциации журналистов.[3] Данны официальным предупреждением было объявлено, что руководство БАЖ обязано обеспечить, чтобы все членские документы, ранее выданные членам БАЖ, были изъяты, и проследить за тем, чтобы они не могли быть использованы в будущем. Министерство юстиции утверждало, что пресс-карты, выданные БАЖ, были незаконными, поскольку они "привели к неоправданному присвоению членами БАЖ полномочий, предоставленных журналистам средств массовой информации", которые имеет право в соответствии со Статьей 34 пунктом 2 Закона о СМИ осуществлять свои профессиональные обязанности.

10. Министерство юстиции утверждает в предупреждении, что официальные пресс-карты БАЖ незаконно содержат слова "Пресса" и "Пресса Республики Беларусь", так как ассоциацияжурналистов не является платформой СМИ и не может выдавать "официальных документов" данного типа своим членам, так как это является нарушением требований пункта 7 Статьи 1 и пункта 4.9 Статьи 34 Закона о средствах массовой информации Республики Беларусь, № 427-Z от 17 июля 2008 года.[4]

11. Кроме того, Министерство юстиции заявило, что Центр правовой защиты СМИ при БАЖ "н предусмотрен ставом БАЖ и действует не в рамках устава организации". Говорилось о том, что бесплатные юридические услуги в поддержку независимых журналистов не соответствуют мандату БАЖ.

12. Кроме того, министерство также заявило о том, что информация о целях БАЖ на веб-сайте Ассциации (www.baj.by) не соответствовала уставу.

13. БАЖ было поручено принять меры для предотвращения любых будущих нарушений требований закона и устава организации, как оговорено в предупреждении, и представить в Министерство юстиции доказательства того, что по всем требованиям, перечисленным в предупреждении[5], были приняты соответствующие меры. БАЖ был обязан изменить формулировку своих целей на веб-сайте и вывести из обращения все пресс-карты в течение месяца после вынесения предупреждения.

[3] За подписью заместителя министра юстиции, г-на Симонова.
[4] Правовые акты о СМИ, Закон Республики Беларусь № 427-З от 17 июля 2009г.
[5] Текст предупреждения можно найти на веб-сайте БАЖ: http://baj.by/m-media-browse-aid-52-mid-4664.html; Английский перевод предупреждения (CDL (2010) 055,

14. Предупреждение было вынесено вскоре после того, как члену БАЖ, который снимал документальный фильм о стекольном заводе, запретил снимать сотрудник милиции; несмотря на предварительное согласование с высшим руководством завода и несмотря на то, что он представился как журналист и предъявил свой членский билет БАЖ, содержащий слово "Пресса".

15. Министерство юстиции регистрирует ассоциации и контролирует, что их деятельность осуществляется в соответствии с их статусом и с законодательством. Предупреждение является низшей из санкции, из трех видов санкций, которые могут быть применены по отношению к ассоциациям. Дальнейшими санкциями могут быть: приостановление деятельности ассоциации на период от одного до шести месяцев, и в конечном итоге, во исполнение решения суда, прекращение деятельности объединения, если последнее не выполнило требования предыдущего предупреждения. Все три санкции могут быть обжалованы непосредственно в Верховном суде.

16. Предупреждение, вынесенное Министерством юстиции 13 января 2010 года, действительно до марта 2011 года. Президентские выборы в Беларуси должны состояться 19 декабря 2010г[6].

**B. Белорусская Ассоциация Журналистов**

17. БАЖ – это неправительственное, непартийное и некоммерческое профессиональное объединение работников СМИ. Она является филиалом Международной федерации журналистов, неправительственной организации, которая осуществляет кампании в интересах журналистов в рамках системы ООН и поддерживает официальные отношения с ЮНЕСКО.[7]

Согласно уставу, она была создана для защиты законных прав журналистов и борется за поддержку свободы слова в стране.[8] Основанная в 1995 году, БАЖ в настоящее время насчитывает около 1100 членов, представляющих широкий спектр средств массовой информации со всей Беларуси. Около 16 процентов его членов работают в государственных средствах массовой информации. Это означает, что БАЖ в основном объединяет независимых журналистов. Многие иностранные журналисты также являются членами БАЖ.

18. БАЖ выпускал свои пресс-карты в течение десяти лет[9]. Юридический центр БАЖ действует с 1999 года, и, по словам представителей БАЖ, был "утвержден Министерством юстиции"; веб-сайт БАЖ работает с 2003 года.

19. БАЖ – аффилиированный член "Article 19", Всемирной кампании за свободу выражения, со штаб-квартирой в Лондоне[10], член Международной федерации журналистов с 1997 года[11] и организации "Репортеры без границ" с 2003 года. В этом же году Всемирная ассоциация газет (WAN) наградила БАЖ призом «Золотое перо свободы».[12] В 2004 году Европарламент присудил БАЖ премию Сахарова за свободу мысли.[13]

[6] По решению Палаты представителей РБ от 14 сентября 2010 года.
[7] Международная федерация журналистов (МФЖ) была создана в 1926г. и объединяет около 600,000 членов в более чем ста странах (см. http://www.ifj.org/en/pages/about-ifj)
[8] http://www.belarus.non-gov.org/organizers.htm, см. также www.baj.by
[9] По словам Жанны Литвиной, председателя Белорусской ассоциации журналистов. http://baj.by/m-pviewpub-tid-1-pid-8189.html
[10] http://www.article19.org/work/regions/europe/partners.html
[11] http://www.ifj.org/en/articles/ifj-protests-against-legal-harassment-of-belarus-association-of-journalists
[12] http://www.wan-press.org/article10805.html
[13] http://www.europarl.europa.eu/comparl/afet/droi/sakharov/prizewinners_en.htm

